„Беларускі настаўнік” гэта адукацыйны дапаможнік перш-наперш настаўнікам беларускай мовы ў польскіх школах. Але не толькі. Хочам, каб наш часопіс дапамагаў усім зацікаўленым беларускай адукацыяй, напрыклад гісторыкам і географам, якія ўводзяць на ўроках элементы навучання гісторыі і геаграфіі Беларусі, але таксама Падляшша. Каб пашыраў сярод настаўнікаў веды пра Беларусь і азнаямляў з новымі метадамі навучання. Хочам, каб гэта была таксама настаўніцкая платформа абмену меркаваннямі, праблемамі, досведам.

Часопіс задуманы Аб’яднаннем у карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА. Яго ідэя ўзнікла ў час працы над „Стратэгіяй развіцця асветы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы”.
У першым нумары надрукавалі мы поўны тэкст гэтага — на нашу думку — фундаментальнага дакумента, інфармацыі пра істотныя змены ў арганізацыі навучання беларускай мовы як мовы нацыянальнай меншасці, інфармацыі пра падручнікі і выдавецкія планы, сцэнарыі ўрокаў.

„Беларускі настаўнік” будзе выходзіць раз на паўгода. Запрашаем да супрацоўніцтва. Калі маеце цікавыя сцэнары ўрокаў або пазаўрочных заняткаў, урачыстых лінеек, школьных мерапрыемстваў, экскурсіяў, тэатральных спектакляў, калі ў Вас ёсць цікавыя гульні і дыдактычныя матэрыялы, прапануйце іх, з дапамогай нашага часопіса, іншым. Калі ў Вас узніклі пытанні, звязаныя з навучаннем беларускай мовы, пішыце.

Матэрыялы і пытанні дасылайце на наш электронны адрас **ab_ba@poczta.onet.eu**. Часопіс „Беларускі настаўнік” даступны ў Вашых школах і на нашым сайце **www.ab-ba.com.pl**.

# З НАЗІРАННЯЎ

## НАСТАЎНІКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ



Яланта ГРЫГАРУК

Навучаць роднай мове — як прыгожа гэта гучыць. Засвоіць дзецям любоў і пашану да роднага, дарагога, нашай спадчыны і нашага гонару. Гэта павінна быць асноўная мэта працы кожнага настаўніка беларускай мовы ў Польшчы.

Практыка, аднак, часта аказваецца не такой прыгожай. Па-першае, настаўнік беларускай мовы звычайна працуе больш, чым яго калегі ў той самай школе. Чаму? У першую чаргу таму, што ў іншым выпадку мог бы не мець ніякай працы. Гэтая пагроза вісіць над намі безупынна. Праўда, цяпер (толькі цяпер) павісла яна і над настаўнікамі іншых прадметаў. Калі не маеш вынікаў у конкурсах, калі не арганізуеш нечага цікавага са сваімівучнямі, то бацькі на наступны год не запішуць дзяцей, або выпішуць нават тых, якіх ужо запісалі, нават калі гэта не да канца згоднае з законам.

Так што настаўніку беларускай мовы прыходзіцца працаваць, працаваць і яшчэ раз працаваць. Некатарыя мае сябры і сяброўкі знайшлі з гэтага выхад, проста набылі іншыя кваліфікацыі і пачалі вучыць іншым прадметам. Іншыя сталі дырэктарамі. Гэта не кепска, што чалавек шукае свайго месца ў жыцці, аднак, калі аказваецца, што разам з гэтым «памірае» ў школе навучанне беларускай мовы, то магу сцвердзіць, што гэта не ідзе нам у карысць.

Здараецца час ад часу так, што настаўнік, які можа навучаць беларускай мове ў школе ёсць, а вучыць на практыцы няма каму.

Першы аргумент, якім карыстаюцца ўжо былыя настаўнікі беларускае мовы: чаму я маю працаваць больш, калі магу за такія самыя грошы — менш? Лагічна, аднак ці згодна з уласным сумленнем?

Другі аргумент: чаму школьная і гмінная (ці гарадская) ўлада дасягненні настаўнікаў беларускай мовы ставіць ніжэй за дасягненні настаўнікаў іншых прадметаў? Магчыма, што не заўсёды, але такая схільнасць назіраецца і пра тое многія настаўнікі гавораць.

Чаму так? Магчыма, што прычынай з'яўляюцца нейкія затоеныя і глыбока схаваныя комплексы, а часам зайздрасць у асяроддзі.

Помню, напрыклад, такую сітуацыю, калі настаўнік іншага прадмета вы-

пісаў сваё дзіця з навучання беларускае мовы, таму што ён дасягненняў не меў, а настаўніца беларускай мовы «дзякуючы яго дзіцяці» мела іх многа. Дзіця яшчэ нейкі час спрабавала хадзіць тайком на ўрокі беларускай мовы, аднак бацька раскрыў гэтую «партызаншчыну», данёс пра нелегальнае навучанне дырэктару і абяцаў, што калі яно не спыніцца, пашле пісьмовае паведамленне ў Куraторыю.

Расказвала мне сваю гісторыю таксама настаўніца, якая ўжо на пенсіі. Многа гадоў яна працавала ў школе, дзе былі ўсе «свае», у разуменні праваслаўныя беларусы. Дырэктар і ўлада ў гміне таксама. Склалася аднак так, што конкурс на дырэктара выйграў чалавек «не наш», не праваслаўны і не беларус, і што аказалася? Першы раз у яе доўгай працы новы дырэктар публічна яе пахваліў і ў дабавак даў грашовую ўзнагароду.

Настаўнік беларускай мовы, гэта змагар, таму трэба зразумець, што не кожны змагаром нарадзіўся і не кожны зможа ім усё жыццё быць. Тым больш, што мы беларусы, з'яўляемся народам, які на цэлай этнічнай тэрыторыі хоча жыць спакойна. Столькі ўжо войнаў на нашай зямлі было, што мы стараемся пазбягаць канфліктаў, нават калі нам гэта не да канца выгаднае.

Іншай зусім справай з'яўляецца добраахвотны перавод дзяцей беларусаў у іншае этнічнае поле. Гэтая з'ява сумная і балючая, асабліва ў нас на Беласточчыне. Колькі настаўнікаў беларускае мовы, выпускнікоў беларускае філалогіі ў Варшаве ці Беластоку не размаўляла ніколі са сваімі роднымі дзецьмі па-беларуску? Здараецца таксама, што не лічаць патрэбным запісаць сваіх дзяцей на ўрокі беларускай мовы. Як можам патрабаваць пашаны ад іншых, калі самі не шануем уласнае культуры, роднае мовы?

Не раз я размаўляла з украінкамі, ці літоўкамі і яны такой з'явы не разумеюць. У іх іншы падыход. Хаця працэс асіміляцыі з польскім асяроддзем і ў іх праходзіць хутка. Ад каго, аднак, чакаць пашаны, калі чалавек не шануе самога сябе?

Усё-такі, паглядзеўшы на нашыя справы, трэба сказаць і многа добрага. Ніводная нацыянальная меншасць у Польшчы не мае свае прадметнае алімпіяды па роднай мове, а мы маем. Маем арганізаваныя Беластоцкай кураторыяй прадметныя конкурсы па беларускай мове, на узроўні падставовай школы і гімназіі. Абодва нашыя ліцэі, у Гайнаўцы і Бельску з'яўляюцца аднымі з найлепшых у нашым ваяводстве. Ёсць конкурсы дэкламатарскія, вакальныя, расказчыкаў і не толькі. Маем свой тыднёвік «Ніва» і месячнік «Часопіс», а таксама многа іншых выданняў. Шмат добрага робяць асяродкі культуры і беларускія арганізацыі.

Гэта сапраўды нямала, аднак час ад часу трэба гэта ўсё пераасэнсаваць, перадумаць што робіцца добра, а што не вельмі і патрабуе паправы. Дзеля гэтага патрэбны абмен думак, адкрыты, шчыры, з пашанай для іншых удзельнікаў дэбатаў. Такім форумам можа і павінен стаць «Беларускі настаўнік».

Памятайма пра нашую галоўную мэту: вучыць нашых дзяцей пашаны да роднага, беларускага. Няхай яны стануць лепшымі і разумнейшымі за нас.

**Яланта ГРЫГАРУК**

# ЮРЫДЫЧНЫ АГЛЯД

У гэтым годзе юбілей дваццацігоддзя адзначыла Самаўрадавае прадшколле № 14 у Беластоку, а канкрэтна яго беларускія аддзелы. Бацькі-ініцыятары, дзякуючы якім пачаўся ўвесь працэс навучання роднай мовы ў Беластоку спачатку, здаецца, і не думалі пра такое — на працягу гадоў яны арганізавалі адукацыю для сваіх дзяцей у садку, пачатковай школе, гімназіі, ліцэі. Малечы, якія ў 1995 годзе пачалі ў Беластоку вывучаць родную мову раз'ехаліся па свеце і неўзабаве, спадзяюся, стануць бацькамі. Адукацыйныя законы дапамагаюць ахвотным бацькам арганізаваць навучанне роднай мовы ўсім нацыянальным меншасцям у Польшчы пачынаючы з садка.

На сайце Міністэрства нацыянальнай адукацыі з'явіўся

***Niezbędnik dla ucznia, rodzica i nauczyciela na rok szkolny 2015/2016 — zanim pójdziemy do szkoły.***

У ім змешчаны і такі запіс:

Dzieci w przedszkolach mogą uczyć się języka mniejszości narodowych, etnicznych lub języka regionalnego w oparciu o treści dostosowane do ich wieku (podstawa programowa wychowania przedszkolnego została uzupełniona w zakresie dotyczącym przygotowania dzieci do nauki języka mniejszości narodowych, etnicznych oraz języka regionalnego).

Карыстаючыся новымі законамі можам арганізаваць чарговыя беларускія аддзелы ў іншых мясцовасцях. Трэба толькі назбіраць ахвотных бацькоў і падаць заяву дырэктару прадшколля.

Дакумент, які апісвае працэс адукацыі ў прадшколлі, гэта

***Podstawa programowa wychowania przedszkolnego dla przedszkoli, oddziałów przedszkolnych w szkołach podstawowych oraz innych form wychowania przedszkolnego.***

Яе знойдзем у:

***DZIENNIK USTAW RZECZYPOSPOLITEJ POLSKIEJ Warszawa, dnia 18 czerwca 2014 r. Poz. 803 ROZPORZĄDZENIE MINISTRA EDUKACJI NARODOWEJ z dnia 30 maja 2014 r. zmieniające rozporządzenie w sprawie podstawy programowej wychowania przedszkolnego oraz kształcenia ogólnego w poszczególnych typach szkół. (Dz. U. poz. 977 z późn. zm.)***

У дакуменце вызначаныя мэты прадшкольнага выхавання, апошняя з запісаных гучыць так:

W przedszkolach umożliwiających dzieciom należącym do mniejszości narodowych i etnicznych oraz społeczności posługującej się językiem regionalnym, o których mowa w ustawie z dnia 6 stycznia 2005 r. o mniejszościach narodowych



Аліна ВАЎРАНЮК

i etnicznych oraz o języku regionalnym (Dz. U. Nr 17, poz. 141, z późn. zm.), podtrzymywanie i rozwijanie poczucia tożsamości narodowej, etnicznej i językowej — przygotowanie dzieci do posługiwania się językiem mniejszości narodowej lub etnicznej lub językiem regionalnym poprzez rozbudzanie ich świadomości narodowej, etnicznej i językowej oraz budowanie pozytywnej motywacji do nauki języka mniejszości narodowej lub etnicznej lub języka regionalnego na dalszych etapach edukacyjnych.

Далей чытаем:

Dziecko kończące wychowanie przedszkolne i rozpoczynające naukę w szkole podstawowej:

**1.** uczestniczy w zabawach prowadzonych w języku mniejszości narodowej lub etnicznej lub języku regionalnym;

**2.** rozumie bardzo proste polecenia wydawane w języku mniejszości narodowej lub etnicznej lub języku regionalnym i reaguje na nie;

**3.** powtarza rymowanki, proste wierszyki i śpiewa piosenki w grupie w języku mniejszości narodowej lub etnicznej lub języku regionalnym;

**4.** rozumie ogólny sens krótkich historyjek opowiadanych lub czytanych w języku mniejszości narodowej lub etnicznej lub języku regionalnym;

**5.** wie, do jakiej wspólnoty narodowej, etnicznej lub językowej należy;

**6.** zna godło swojej wspólnoty narodowej, etnicznej lub językowej.

Лёс Вашых дзяцей залежыць ад Вас. Мо праз 20 гадоў і ў садках у іншых мясцовасцях будзе гучаць беларуская мова.

**Аліна ВАЎРАНЮК**

# „Тройка" — мой другі дом



Мікола ВАЎРАНЮК

Комплекс школ № 3 з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім адзначыў у траўні 2015 года сваё афіцыйнае 50-годдзе. **Васіль Ляшчынскі** быў дырэктарам „Тройкі" 37 гадоў. Выйшаў на пенсію ў 2012 годзе...



Васіль ЛЯШЧЫНСКІ

— Не па сваёй волі, — смяецца пенсіянер. — Я мог і хацеў яшчэ працаваць. Тым больш, што два гады раней я памысна прайшоў конкурс на дырэктара на чарговы пяцігадовы тэрмін. У 2012 мне споўнілася 65 гадоў і я набыў пенсіянерскія правы, але не мусіў імі карыстацца. Тадышні бурмістр палічыў, аднак, што гэта добрая нагода, каб мяне пазбыцца.

**— І вы не пратэставалі?**

— Не бачыў сэнсу. Падумаў, што шкада нерваў, здароўя. — Васіль Ляшчынскі перасоўвае паўметра фатэль, у цень. Размаўляем у садку ў Орлі, ля хаты, якую пабудавалі яго бацькі, таксама настаўнікі. Кароткія штаны, кава, разгорнутая кніжка. Можна сказаць, ідылія. Ці сапраўды для непаседлівага ўсё жыццё чалавека? — Я ніколі не быў любімцам улады, ніякай. Яны не ведалі чаго ад мяне чакаць, калі я магу выскачыць з крытычным словам у іх бок. Але я заўсёды лічыў і лічу, што дырэктары беларускіх школ у Польшчы не могуць быць толькі адміністратарамі сваіх устаноў. Мусяць глядзець шырэй і са сваёй дзейнасцю выходзіць па-за школьныя муры.

**— Або, так як вы, яшчэ і пашыраць тыя муры. Вам давялося будаваць новае крыло школы, а па сутнасці асобны будынак. Потым гімнастычную залу...**

— ...якая да сёння найбольшая ў Бельску, — смех, — а аддалі мы яе ў карыстанне ў 1995 годзе. Будавалі амаль дзесяць гадоў. Ангажаваліся ў пабудову ўсе, настаўнікі, вучні, бацькі на чале з тадышнім старшынёй Рады бацькоў Аляксандрам Божкам. Спачатку не можна было нічога дастаць, ні будматэрыялаў, ні тэхнікі, потым не было грошай. Але я мог разліч-



Дзяцінства ў Орлі. Васіль Ляшчынскі другі з правага боку. *Фота Мікалая Нэстэровіча*.

ваць на добразычлівасць людзей. Дапамагалі нам і пажарнікі, і меліяратары, бо ўсюды былі бацькі нашых вучняў.

**— Спорт адыграў у вашым жыцці вялікую ролю. І мы да яго яшчэ вернемся. Давайце аднак закончым справу з будаваннем. Бо пакуль узяліся за гімнастычную залу, трэба было дзесьці памясціць вучняў.**

— „Тройка" працавала ў адным будынку з Ліцэем імя Браслава Тарашкевіча. Збудаваў яго ў 1961 годзе Яраслаў Касцыцэвіч і спачатку была там адна беларуская школа, якая ў 1965 годзе падзялілася на падставоўку і ліцэй. А і так па тых самых калідорах хадзілі сямігадовыя дзеці і амаль дваццацігадовыя маладзёны. Цесната была страшэнная. Атрымалі мы згоду на дабудаванне шасці класаў. Будавалі тры гады. Калі ў 1985 годзе праходзіла ў нас ваяводская інаўгурацыя навучальнага года, тадышні беластоцкі куратар асветы Эдвард Крыньскі налічыў адзінаццаць новых залаў. *Masz szczęście, że cię lubię*, прыгразіў мне пальцам. Ён быў знаёмым майго бацькі. Ну і я быў партыйны, што на той час, зараз пасля ваеннага становішча, было немалаважным. Зрэшты, каб не быў партыйным, не стаў бы дырэктарам.

З сяброўкаю на лаўцы ў Орлі. Часы настаўніцкай семінарыі. *Фота з хатняга архіву В. Ляшчынскага*.



**— Вы ў партыю запісаліся дзеля кар'еры?**

— Пра якую кар'еру я мог думаць ў дзевятнаццаць год? Гэта было яшчэ ў педагагічным ліцэі. Я такі быў, што не мог уседзець на месцы. Сачатку запісаўся ў Саюз вясковай моладзі (*Związek Młodzieży Wiejskiej — ZMW*) і нават стаў старшынёй школьнай структуры гэтай арганізацыі, пасля таго як закончыў школу мой папярэднік Ян Войцюк. Ездзіў па вёсках — Плютычы, Страбля, Райск — агітаваў, арганізаваў нейкія танцы. На жаль, не карыстаўся на іх вялікім поспехам, бо не меў моднага на той час махеровага швэдра — смех. — У пачатку пятага класа дырэктар Мікалай Канашынскі кажа, што трэба даць прыклад моладзі, маўляў, як я запішуся, то і іншыя за мною пойдуць. „Ужо адзін дурань у хаце ёсць і досыць", коратка і дакладна пракаментавала мая мама, маючы на думцы бацьку. Я, аднак, не паслухаў яе і запісаўся. Кар'еры ў партыі не зрабіў. Хаця потым даведаўся, што пабойваліся мяне, партыйнага, выкладчыкі ў Гданьску. А быў гэта неспакойны 1970 год, страйкі, дэманстрацыі, расстрэл рабочых. Студэнты, праўда, тады да пратэстаў не падключыліся, бо памяталі, што рабочыя не падтрымалі іх два гады раней. Тым не менш, мы ж бачылі, што адбываецца і абмяркоўвалі тыя падзеі.

Я апынуўся, можна сказаць, у самым воку цыклона, дзе віравала вольнадумства і як бы насуперак матчыным навукам: „толькі там не гавары, хто ты такі" ці пра ласкавае цяля, якое дзве каровы ссе, я набраўся таго духу свабоды. Дык мне і ў галаву тады не прыходзіла, што я магу дзе-небудзь скарыстацца сваёй партыйнай прыналежнасцю, тым больш з такой мэтай, каб каго напалохаць ці каму зашкодзіць.

**— Давайце крыху ўпарадкуем ваш жыццёвы шлях.**

— Нарадзіўся я ў 1947 годзе ў Васьках, дзе якраз настаўнічалі мае бацькі. Яны былі з першага пакалення нашай інтэлігенцыі, неслі народу каганец асветы — смех — не адрываючыся моцна ад зямлі. Мой першы свядомы ўспамін з наступнага месца працы бацькоў, вёскі Тыневічы. Наша карова ўвалілася ў багну і хіба з поў вёскі збеглася, каб яе выцягнуць. А першая мая жыццёвая прыгода, якой я не магу памятаць, а ведаю толькі з пераказаў, гэта тое, што мяне падпітыя кумы згубілі па дарозе дадому з хросту з Нарвы. Была зіма, бо я нарадзіўся 14 студзеня, дык відаць, хутка схамянуліся. Тым не менш, потым смяяліся, што я паспеў у лесе пасябраваць з ваўком.

У 1951 годзе бацькі пасяліліся ў Орлі, на радзіме маці (бацька з Макаўкі), але не ў родавай хаце. Спачатку купілі пажыдоўскі дом пры выездзе на Крывятычы, а потым гэты ўчастак насупраць школы і тут пабудаваліся. Я памятаю, што на гэтым месцы, дзе цяпер сядзім, было поле бульбы, на якім я вучнем збіраў каларадскіх жукоў.

**— Калі вы рашылі пайсці следам за быцькамі і стаць настаўнікам?**



Таня Ляшчынская. *Фота Васіля Ляшчынскага.*



Дырэктар Ляшчынскі на міжшкольных спартовых спаборніцтвах. *Фота з хатняга архіву В. Ляшчынскага.*

— Я хацеў пайсці ў Аўтамабільны тэхнікум (*Technikum Samochodowe*) у Ольштыне або Тэхнікум фізкультуры ў Аліве. Абедзве школы былі, аднак, далёка і бацька пераканаў мяне да паступлення ў Педагагічны ліцэй у Бельску, у беларускі клас. Маёй настаўніцай беларускай мовы была Лідзія Гайдук, якая дарэчы выкладала і нямецкую мову. Яна мне часта пазычала дадатковыя кнігі, але неяк нямецкай мовы я не засвоіў. Мне больш падабалася за мячыкам ганяць.

Ліцэй закончыў я ў 1966 годзе і трэба было пастулаць далей, хаця б па тое, каб уцячы ад арміі. Паступіць у вышэйшую школу, аднак, не было так проста. Патрэбная была рэкамендацыя дырэктара, якой я, на жаль не атрымаў. З майго класа дырэктар Канашынскі накіраваў тры асобы: Ягоду Дабрагоўскую ў Акадэмію фізічнага выхавання ў Варшаве, Янку Зданоўскага ў Вайсковую тэхнічную акадэмію і Фёдара Скепку ў Варшаўскую палітэхніку. Я з прыгодамі трапіў у двухгадовую Настаўніцкую семінарыю (*Studium Nauczycielskie*) ў Элку. Пасля яе, у дваццаць адзін год, стаў настаўнікам у Моры.



З Таняй і вучнямі на экскурсіі. *Фота з хатняга архіву В. Ляшчынскага.*

**— Кватэру атрымалі?**

— Не, жыў у бацькоў. У Мора ездзіў на ровары. Хаця з Орлі недалёка, якіх 5 кіламетраў, то памятайма, што тады дарогі былі не такія. Большую частку года мясіў балота. Або па кароўячых блінах як праедзешся, дык губляеш многа са свайго настаўніцкага іміджу!

**— Не бывае, аднак, ліха без дабра. У Моры вы пазналі будучую жонку.**

— Таня прыйшла на маё месца, бо я ўсё-такі пасля года працы вырашыў вучыцца далей. Паступіў у Вышэйшую педагагічную школу ў Гданьску, якую ў час маёй вучобы перайменавалі ва ўніверсітэт. Але да ад'езду паспеў яшчэ пазнаёміцца з маладой настаўнцай, выпускніцай Настаўніцкай семінарыі ў Аліве. Неўзабаве мы пажаніліся, Таня паехала за мною ў Гданьск, пачала штудзіраваць у Акадэміі фізічнага выхавання ў той самай Аліве. У 1972 годзе нарадзілася нам дачушка Наташа, дык Тані прышлося заканчваць вышэйшую адукацыю ўжо бліжэй дому, у Белай-Падляшскай.

**— Вы вярнуліся ў Мора, але ўжо не простым настаўнікам, а дырэктарам.**

— Гэта быў 1973 год. У той час сярод вясковых настаўнікаў толькі адзінкі мелі вышэйшую адукацыю. Большасць педагагічных кадраў складалі маладыя людзі пасля настаўніцкіх семінарыяў, так як я пару гадоў раней. А тут я ўжо апынуўся, можна сказаць, у настаўніцкай эліце. Ну і якраз дырэктар Юзаф Зінкевіч пераходзіў на працу ў ліцэй.

**— Доўга вы ў Моры не засталіся. Хаця дырэктарам былі ўжо да пенсіі.**

— Тадышні дырэктар „Тройкі" Сяргей Лукашук вырашыў, усяго пасля паўгода на гэтай пасадзе, поўнасцю пайсці ў культурную дзейнасць і перайшоў на дырэктара Бельскага дома культуры (быў ім да канца 2012 года; паклаў вялікія за-

слугі для развіцця беларускага музычна жыцця на Беласточчыне — М.В.). Мяне рэкамендаваў дырэктар ліцэя Аляксей Карпюк. Павятовыя асветныя інспектары, бельскі Базылі Нядзведскі і гайнаўскі Януш Лунеўскі беспраблемна, пры адной пляшчцы, дамовіліся пра мой пераход з аднаго павета ў другі. І так, 14 лютага 1975 года я стаў дырэктарам Пачатковай школы № 3 у Бельску (а пасля асветнай рэформы 1998 года да выхаду на пенсію — дырэктарам комплексу школ, які складаецца з падставоўкі і гімназіі). І пачаліся даезды ў другі бок, бо мы тады жылі ў школе ў Моры. Я зноў па снезе і балоце хадзіў уздоўж рэек са станцыі Арлянка, але толькі паўгода. Ужо з верасня 1975 года ўсёй сям'ёй жылі мы ў Бельску.

**— У вашым авансе з вёскі ў горад немалаважную ролю адыграў спорт.**

— Так, дзякуючы спорту пра школу ў Моры ў павеце ўжо чулі, а вясною 1975 года пачулі ў цэлым ваяводстве. Некаторыя ўпершыню. Ужо дырэктарам школы была Таня, калі Мора ўзяло восем залатых медалёў на Беластоцкай алімпіядзе школьнай моладзі. Пабілі ўсю канкурэнцыю, у тым і Спартовую школу № 25 у Беластоку. Валодзя Баравік пабіў два рэкорды ваяводства, у скачку ў даўжыню і трайным скачку. Генё Клін перамог у кап'і і дыску, Валя Назарук у штурханні ядра (у кіданні кап'я была другая), Зіна Сачко у дыску, Янка Томчук — у скачках з шастом, Мікалай Хіліманюк быў першы ў бегу на два кіламетры. А яшчэ ў бегавых канкурэнцыях другія месцы ўзялі Людміла Гаворка і Міша Мураўка. „Вы ведаеце, што вы нарабілі?" — пачулі мы ў свой адрас. Якіясьці Ляшчынскія невядома з якога Мора. Пасля гэтага далі Тані і мне паперы інструктараў лёгкай атлетыкі. Але найбольш важкі эфект быў такі, што нашым вучням адкрыліся новыя магчымасці. Яны паверылі ў сябе, пабачылі, што могуць сягаць вышэй, што не мусяць заканчваць адукацыю на трохгадовай падрыхтоўчай прафесійнай школе. І многія сапраўды здабылі вышэйшую адукацыю.

**— Вы не нагадваеце атлета. Адкуль у вас зацікаўленне спортам?**

— Я і сам не ведаю. Хаця я невялікі, але заўсёды быў шустры, — смех. — Першае маё спартовае захапленне ўзялося, мабыць, ад дваюраднага брата Сашкі Войны, на сем гадоў старэйшага за мяне. Ён піхаў ядро і кідаў дыскам і быў у маіх вачах вялікім аўтарытэтам. Раз нават, калі ён быў у школе ў Бельску, я ў яго „пазычыў" тое ядро і кідаў у сябе на агародзе, пакуль не ўбачыла мама. Загадала мне хутка яго аднесці туды, дзе ўзяў.

А калі сур'ёзна, дык я спорт любіў весь час. У маім дзяцінсве не было камп'ютараў, а тэлевізары былі навіной. Чымсьці трэба было заняцца і спорт быў вельмі файнай формай актыўнасці. У ліцэі меў я добрых настаўнікаў фізкультуры: Віктара Аляксеева ды Ізыдара Вельгата. Зацікаўленне спортам засталося мне на ўсё жыццё. Я і цяпер яшчэ займаюся з вучнямі на грамадскіх пачатках.

**— Мая знаёмая, якая хадзіла да вас на трэніроўкі расказвала, аднак, што вы ёй выбілі сур'ёзны спорт з галавы.**

— Так, было такое. Гэтая дзяўчына любіла спорт, але дабіцца поспехаў магла б толькі за кошт вельмі цяжкай працы. А я бачыў у ёй іншы патэнцыял — інтэлігенцыю. Таму я ёй раіў заняцца перш-наперш навукай. І вышла на маё, яна закончыла медыцыну.

Я проста лічыў і лічу спорт не нейкай канкрэтнай мэтай, а сродкам дзеля развіцця маладога чалавека. Прыемна перамагаць, прыемна заваёўваць медалі, кубкі і дыпломы, але не гэта галоўнае. Маім вучням з Мора спорт дапамог выбіцца ў людзі, а для згаданай вамі знаёмай было адчыненых шмат дзвярэй і яна гэтыя магчымасці выкарыстала.

**— Тым не менш, спорт займаў і займае ў „Тройцы" важнае месца.**

— Не забывайце, што нашая школа спецыфічная, найбольшая ў Польшчы

з навучаннем беларускай мовы. Нездарма яе называюць „беларускай". А значыць і больш пільна за ёю сочаць. Я разумеў ад самага пачатку, што апрача беларускай мовы мы мусім яшчэ і задбаць пра высокі ўзровень навучання. Гэта наш абавязак. Апрача таго, добра мець поспехі ў непасрэдным параўнанні з іншымі школамі. Спорт тут ідэальны. Таму і перамагаем да сёння шмат у якіх спаборніцтвах на ўзроўні ваяводства. Ну і яшчэ музычныя беларускія гурты ў нас заўсёды былі на высокім узроўні. Гэта нас таксама заноўча вылучала спасярод іншых школ.

**— А як сустрэлі вас — маладога нявопытнага — у новай школе?**

— Найперш я склаў куртуазійны візіт Яну Суліму, які быў дырэктарам яшчэ да Сяргея Лукашука. Ён мне дзве-тры гадзіны расказваў пра школу. Памятаю, як некалькі разоў паўтарыў: „Там добрыя настаўнікі. Трэба іх шанаваць". І падкрэсліваў беларускі характар школы, які трэба падтрымліваць.

Інспектара Нядзведскага папрасіў я паўгода спакою. Каб не прысылаў ніякіх кантроляў, ніякіх візітатараў. Я сабе даў столькі часу на азнаямленне са школай, настаўнікамі, вучнямі. Ну і як стаў азнаямляцца, то рабіў гэта трыццаць сем гадоў — смех. — Для мяне „Тройка" стала другім домам. Відаць, каб мяне прынялі дрэнна ці я не прыкладаўся да працы, столькі гадоў там не прабыў бы.

**— У гісторыі беларускага школьніцтва на Бельшчыне запісаўся такі вобраз: дырэктар Яраслаў Кастыцэвіч аб'язджае на ровары навакольныя вёскі і намаўляе бацькоў пасылаць дзяцей менавіта ў беларускі ліцэй. Пераконвае іх, што гэта свая школа, што ім там будзе добра. Вы сталі дырэктарам „Тройкі" ўжо ў іншы час. Да вас прыходзілі гарадскія дзеці, ужо польскамоўныя.**

— Не зусім. Калі я пачынаў працу, беларускую мову было часта чуваць на калідоры. Да нас хадзілі дзеці з Пілік, Левак, Відава, Праневіч. Ды і ў самым Бельску яшчэ гаварылі па-свойму. Ну, але з сямідзесятых гадоў працэс паланізацыі пайшоў шпарка.

**— Мне прыгадваюцца вашыя словы, што школа нікога не зробіць беларусам, але можа ўзгадаваць людзей прыхільных беларускай культуры, мове, беларускай дзяржаве.**

— Я так сказаў? Не памятаю, але пад гэтымі словамі магу падпісацца і сёння. Мы рабілі, што маглі. Паказвалі, што нашыя людзі могуць быць найлепшымі ў навуцы, спорце, мастацтве. І гэта абуджала іх гонар. Цягнулі дзяцей ўвысь. Я ведаў, што з дзяцей можна выцягнуць. Не толькі дысцыплінай, але і ўзнагародай, пахвалой. Гэта падбудоўвае людзей.

**— А навошта вы пайшлі ў палітыку? Былі ж вы шанаваным чалавекам у Бельску, дырэктарам школы з дасягненнямі, а тут такая авантура?**

— Гэта быў 1990 год, час рэзкіх перамен у Польшчы. Набліжаліся першыя выбары ў мясцовыя органы тэрытарыяльнага самакіравання. Прыйшоў да мяне Сяргей Лукашук і кажа, што нешта трэба думаць, бо ніхто з намі цацкацца не будзе. Наш лёс у вялікай ступені залежыць ад таго, як сарганізуем грамадскае жыццё ў Бельску. Згодна з лозунгам першых парламенцкіх выбараў 1989 года „Беларусы, пра нашы справы будзем гаварыць самі" заснавалі мы Беларускі выбарчы камітэт. І ўзялі восем месцаў у гарадской радзе. Былі тады, праўда, у апазіцыі, але з намі трэба было лічыцца. Потым было па-рознаму, у другім і трэцім скліканні самакіравання мелі мы свайго бурмістра Андрэя Сцепанюка, які цяпер з'яўляецца дырэктарам Агульнаадукацыйнага ліцэя з навучаннем беларускай мовы імя Браніслава Тарашкевіча. Я быў старшынёй гарадской рады. Потым — як дырэктар установы залежнай ад горада — я ўжо не мог балатавацца ў гарадскую раду

і сваю актыўнасць накіраваў у павятовыя структуры (сёння Васіль Ляшчынскі — член Управы Бельскага павета — М.В.). Цяперашні бурмістр Яраслаў Бароўскі, гэта мой былы вучань, а сёння таксама наменснік старшыні Бельскай кааліцыі, адным з ініцыятараў паклікання якой і быў Беларускі выбарчы камітэт. Можна сказаць, што ангажаванасць у мясцовую палітыку была неабходнасцю. Калі мы тут жывем і хочам мець уплыў на жыццё горада, павету, мы мусім праяўляць актыўнасць. Ніхто за нас нічога не зробіць і ніхто нам задарма нічога не дасць.

Лічу, што нашая актыўная пазіцыя дазволіла абараніць „Тройку" як школу беларускай меншасці. Былі такія галасы, а навошта вам асобная школа, беларускую мову можна ж увесці ў любую. Калі б так сталася, то думаю, што сёння наогул не мелі б мы навучання беларускай мовы ў Бельску.



Зор.ка

Хлопцы з Мора. Першы злева — Уладзімір Баравік, на Ваяводскай алімпіядзе ён пабіў два рэкорды ваяводства: у скачках у даўжыню і ў трайным скачку. Першы справа — Янка Томчук — чэмпіён ваяводства па скачках з шастом.

Фота Я. Чэрнякевіч

№ 25 (908) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 22.VI.1975 г.

"Зорка" (22.06.1975г.) пяром Яніны Чарнякевіч пра спартовы поспех Пачатковай школы у Моры.

## Школа спартсменаў

Стадыён імя Я. Кусацінскага ў Беластоку ў той дзень залівала яркае сонца. Трыбуны каляровіліся чырванню, беллю, блакітам спартыўных касцюмаў удзельнікаў і балельшчыкаў IV Ваяводскай алімпіяды школьнікаў. Пачынаўся другі дзень алімпіяды.

«Вітаю ўдзельнікаў алімпіяды, — прагучаў голас дыктара. — Падаем вынікі першага дня алімпіяды. Першае месца сярод школ заняла школа ў Моры...»

Такім чынам удзельнікі і балельшчыкі на стадыёне даведаліся, што нікому дагэтуль невядомая вясковая школа (нават не гмінная) пакінула ззаду вялікай розніцай пунктаў іншыя вялікія і слаўныя школы. У той першы дзень васьмікласнік з Мора Уладзімір Баравік пабіў рэкорд ваяводства сярод моладзі да 15 год у трайным скачку, выканаўшы скок даўжынёй 13,4 метра. У той жа дзень першыя месцы занялі таксама Яўгень Клін, кінуўшы кап'ё на 53,7 метра, і Валя Назарук, якая шпурнула ядро на 9,35 м. Люда Гаворка (бег), Валя Назарук (кап'ё) і Міша Мураўка (бег) занялі другія месцы кожны ў сваёй дысцыпліне. Такім чынам, дзякуючы гэтым вынікам, ужо першы дзень прынёс школе ў Моры і Гайнаўскаму павету рашаючую перамогу.

Другі дзень алімпіяды даў новыя рэкорды. Уладзімір Баравік устанавіў новы рэкорд ваяводства ў скачку ў даўжыню (6 м 47 см). Быў у гэтай дысцыпліне бесканкурэнцыйны, бо іншыя ўдзельнікі скакалі ў межах пяці метраў. Ян Томчук заняў першае месца ў скачках з шастом.

Апошні дзень алімпіяды паглыбіў розніцу пунктаў паміж мораўцамі і іншымі школамі. Выйгралі абсалютна і пэўна.

«Як жа ж так, — думалася мне, калі я наглядала за ходам алімпіяды, — дзеці з далёкай малой вёсачкі перамагаюць у такім стылі сваіх аднагодкаў, знаходзяцца ў такой высокай спартыўнай форме, якой не магла выказацца ні адна школа, нават беластоцкая?»

З думкай аб гэтым я паехала наведаць школу ў Моры.

— Спортам у школе дзеці пачалі займацца ўжо добрых некалькі год,



*У гэтым скоку Уладзімір Баравік скочыў 6 м 47 см, устанаўліваючы новы рэкорд ваяводства.*

6



*Так Янка Томчук заваяваў званне чэмпіёна.*



*Люда Гаворка заўсёды добрых вынікаў дабіваецца па бегу.*

— расказвала мне дырэктар школы Тацціяна Ляшчынская, па адукацыі настаўніца фізкультуры. — Пачалі граць у гульні з мячом. Дзеці прымалі кожную гульню, кожныя заняткі з такім энтузіязмам, столькі было ахвотных, што не хапіла б і пяці пляцовак. А ў школе тады не было ніводнай. Уласнымі сіламі зрабілі валейбольную пляцоўку і футбольнае поле. Першыя мячы купілі за грошы, атрыманыя з продажу макулатуры, потым — шмат яшчэ разоў — са складак вучняў. Калі школа паказала сябе на павятовых спаборніцтвах, трохі спартыўнага інвентару атрымалі з павету як узнагароду за добрыя вынікі. Найлепшых вынікаў дабіліся па лёгкай атлетыцы, але масавых гульняў не закінулі. Яны і цяпер найбольш любімы занятак усіх вучняў.

Толькі ў гэтым сезоне вучні з Мора выступалі ў важных спаборніцтвах больш дзесяці разоў. Найлепшыя спартсмены школы: Уладзімір Баравік, Валя Назарук, Люда Гаворка, Яўгень Клін, Мікола Хілімонюк, Янка Томчук, Міша Мураўка, Зіна Сачко і шмат іншых. Іх дыпломы занялі цэлую сцяну ў школьным калідоры. Наогул, спортам тут займаюцца ўсе. Нават малодшыя вучні, школьная праграма якім не прадугледжвае яшчэ скакаць у вышыню і даўжы-

(Працяг на стар. 8)

7



Мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава ўзнагароджвае Васіля Ляшчынскага медалём Марыі Магдаліны. Бельск, 12.05.2015 г. *Фота Міры Лукшы*.

**— А як вы параўналі б школу з таго часу, калі пачыналі свой прафесійны шлях з сённяшнім днём?**

— Канкрэтна „Тройку" ці ўвогуле школы? „Тройка" акрэпла, з'яўляецца ва ўсіх рэйтынгах адной з лепшых школ у ваяводстве. Я, як былы дырэктар, не павінен ацэньваць працу сённяшняга кіраўніцтва, а проста пажадаць ім поспехаў. А што тычыцца школьнцтва ў цэлым, то мне не падабаецца адна тэндэнцыя: вузкая спецыялізацыя. Прыходзяць на працу добрыя спецыялісты ў сваіх галінах: матэматыкі, паланісты, настаўнікі замежных моў ці фізкультуры, але без дастатковых педагагічных ведаў. Я настаўніцкай прафесіі вучыўся пяць гадоў у педагагічным ліцэі, затым два гады ў настаўніцкай семінарыі, потым яшчэ чатыры ва ўніверсітэце. Не лічу ўсялякіх курсаў, на якіх павышаў кваліфікацыі. Я смела скажу, што мне было лягчэй ацаніць вучня, сарыентавацца, на што ён здольны, як найлепш развінуць яго, часам прыхаваны, талент. Баюся, што сёння настаўнікі не заўсёды маюць на гэта адпаведныя веды і час.

**— Вы на юбілеі „Тройкі", разам са сваёй намесніцай Верай Міхноўскай і школай у цэлым, атрымалі ад мітрапаліта Савы, галавы Польскай аўтакефальнай царквы, медалі Марыі Магдаліны. Віншую! З другога боку, аднак, мне не хапіла ў час урачыстасці медалёў з боку дзяржаўных улад.**

— Ці ж я не казаў у пачатку нашай размовы, што я не быў любімцам ніякай улады?

**Гутарыў Мікола ВАЎРАНЮК**

Гэтым тэкстам пра **лёсы Пачатковай школы ў Грабаўцы** хочам зацікавіць нашых чытачоў вывучаць і апісваць гісторыю іншых школ, у якіх вядзецца або вялося навучанне беларускай мовы. Асабліва разлічваем на настаўнікаў, аматараў мясцовай гісторыі, лакальных патрыётаў. Просім дасылаць тэксты на адрас нашай рэдакцыі.

## Dzieje Szkoły w Grabowcu, gm. Dubicze Cerkiewne



Славамір ІВАНЮК

Pierwsza placówka oświatowa we wsi Grabowiec, rosyjska tzw. „szkoła gramoty", została utworzona w 1887 r.[1] Dane za rok 1899 ukazują, iż uczyło się w niej czytania i pisania 16 chłopców i 16 dziewczynek[2], natomiast w następnym roku 20 chłopców i 8 dziewczynek[3]. Po blisko trzydziestu latach istnienia szkółka ta przerwała swoją działalność — najprawdopodobniej na początku pierwszej wojny światowej.

Bardzo ważny fakt w historii edukacji w Grabowcu miał miejsce w 1918 r. Utworzono wówczas bodajże pierwszą w tej części Podlasia białoruską szkołę, działającą w ramach struktur utworzonej 25 marca 1918 r. Białoruskiej Republiki Ludowej. Jej organizatorką była Wiera Masłowska (Matejczuk), urodzona w Ogrodniczkach koło Białegostoku. Stworzenie tej wiejskiej szkoły było możliwe tylko dlatego, iż część mieszkańców Grabowca nie udała się w sierpniu 1915 r. do Rosji w tzw. „bieżeństwo". Niestety, wraz z opanowaniem Podlasia w lutym 1919 r. przez polską administrację, szkoła białoruska w Grabowcu została zlikwidowana[4].

W aktach przedwojennego Kuratorium Okręgu Szkolnego Brzeskiego zachowała się informacja o tym, że dzieci z Grabowca w latach szkolnych 1922/23 i 1923/24 uczęszczały do szkoły w Dubiczach Cerkiewnych, a w 1924 roku władze zaplanowały otworzyć w Grabowcu polską

1 Archiwum Państwowe w Białymstoku, Akta kościelne różnych wyznań. Zbiór szczątków zespołów, sygn. 9, k. 71.
2 E. Awksientijuk: „Dubicze Cerkiewne. Z dziejów Prawosławnej Parafii", Dubicze Cerkiewne 2012, str. 64.
3 Archiwum Państwowe w Białymstoku, Akta kościelne różnych wyznań. Zbiór szczątków zespołów, sygn. 9, k. 71
4 J. Turonak: „Zabytaja lira Wiery Muraszki", w: „Niwa" z 5.III.1978 r., nr 10.




szkołę 1-klasową, do której uczęszczałoby 34 dzieci (według danych władz oświatowych wszystkie wyznania prawosławnego)[5]. Jednak we wspomnieniach mieszkańców wsi brak jest informacji o szkole działającej do 1939 r. i można sądzić, iż taka placówka w okresie międzywojennym nie powstała[6].

Na jesieni 1939 r., po opanowaniu Białostocczyzny przez Armię Czerwoną i zainstalowaniu się administracji radzieckiej, nowe władze utworzyły w Grabowcu radziecką szkołę z językiem białoruskim, w której początkowo nauczał Aleksy Krawczuk, a później dwie młode dziewczyny, które przybyły ze wschodu — Nadzieja Afanasjewna i Sara Lwowna (ich nazwiska w pamięci mieszkańców nie zachowały się). W szkole zorganizowano także młodzieżową organizację „pionierów"[7].

W czasie okupacji niemieckiej szkoła w Grabowcu istniała tylko w roku szkolnym 1941/42, a zajęcia prowadził Antoni Gilewski[8].

Po drugiej wojnie światowej szkoła w Grabowcu rozpoczęła działalność dopiero w marcu 1948 r. — jako placówka o klasach I-IV, gdyż władze szkolne nie mogły zapewnić kadr nauczycielskich. Dlatego do końca roku szkolnego 1946/47 dzieci z Grabowca uczęszczały do szkoły w Dubiczach Cerkiewnych, która była placówką z białoruskim językiem wykładowym. W dubickim obwodzie szkolnym mieszkało wówczas 141 dzieci objętych obowiązkiem kształcenia, z czego do szkoły uczęszczało tylko 100 dzieci. W szkole w Dubiczach Cerkiewnych uczyło dwóch nauczycieli: Trofim Panfiluk i Roman Starosielnik[9].

5 Państwowe Archiwum Obwodu Brzeskiego, fond 59, opiś 2, sygn. 206, k. 113v-114.

6 Patrz np. opracowanie E.Awksientijuk.

7 W.Pietruczuk: „Pożnia", Mińsk 1991, str. 84-88.

8 J.Turonek: „Okupacyjna polityka szkolna w okręgu białostockim (1941-1944)", w: „Przegląd Historyczno-Oświatowy", Rok XIX, 1976, zeszyt 1(71), s. 318 i 326.

9 Por. *Sprawozdanie dotyczące zagadnienia szkół białoruskich w powiecie Bielsk Podlaski z 16 czerwca 1947 r.*, w: Archiwum Akt Nowych, Ministerstwo Oświaty 1945-1966, sygn. 1749, s. 63.

Do września 1949 r. nauczanie w szkole w Grabowcu prowadzono tylko w języku polskim, bo władze oświatowe, w myśl prowadzonej wówczas antybiałoruskiej polityki, skierowały do tej placówki osoby narodowości polskiej nie znające języka białoruskiego: od marca 1948 r. do czerwca 1948 r. uczyła Maria Wakulakówna (ur. 1924 r.), a od września 1948 r. do czerwca 1949 r. Stanisława Wardzińska[10].

W latach czterdziestych XX wieku, a nawet jeszcze w pięćdziesiątych, dużym problemem była drugoroczność, bo np. w roku szkolnym 1947/48 nie promowano: w kl. I — 11 uczniów, w kl. II — 10, w kl. III — 7, a w kl. IV — 3. Ponadto, w tym czasie nie wszystkie dzieci z obwodu szkoły w Grabowcu kształciły się, pomimo takiego obowiązku, np.: w roku szkolnym 1948/49 poza szkołą pozostawało 54 młodych Białorusinów, a na początku roku szkolnego 1956/57 jeszcze 14 dzieci.

Język białoruski w szkole w Grabowcu, jako jeden z nauczanych przedmiotów, wprowadzono dopiero od września 1949 r., bo w tym czasie zmianie uległa polityka władz polskich co do kształcenia młodych Białorusinów. Do czerwca 1950 r. w 4-klasowej szkole pracował Mikołaj Leszczyński (ur. 1919 r., niekwalifikowany). W tym czasie starsze dzieci z Grabowca uczęszczały do klas V-VII Szkoły Podstawowej w Dubiczach Cerkiewnych.

Po Mikołaju Leszczyńskim do szkoły przyszedł niekwalifikowany nauczyciel Aleksander Zgirski, który nie znał języka białoruskiego, więc przez rok w szkole znowu nie nauczano tego przedmiotu. Była to jednak już szkoła o dwóch nauczycielach z klasami I-VI i do tego zbiorcza dla dzieci z Jelonki i Czechów Orlańskich. Władze oświatowe w swojej dokumentacji odnotowały, że w tym czasie nie nauczano także religii prawosławnej z powodu braku nauczyciela.



[10] Dalsze informacje z okresu do 1967 roku pochodzą z akt Wydziału Oświaty Prezydium Powiatowej Rady Narodowej w Hajnówce, patrz: Archiwum Państwowe w Białymstoku, Prezydium Powiatowej Rady Narodowej i Urząd Powiatowy w Hajnówce, sygn. 317.

W roku szkolnym 1952/53 obowiązki kierownika placówki w Grabowcu objął Piotr Gackiewicz, który znał język białoruski i posiadał odpowiednie kwalifikacje (ur. 1925 r., pracę w szkolnictwie rozpoczął w 1948 r. w Tarnopolu, w 1954 r. dokształcał się jeszcze w Wyższej Szkole Pedagogicznej, był członkiem Zjednoczonego Stronnictwa Ludowego). I dopiero w roku szkolnym 1952/53 szkoła w Grabowcu stała się pełną siedmiolatką z trzema nauczycielami, w której języka białoruskiego nauczano jako przedmiot. Na początku roku szkolnego 1954/55 Piotra Gackiewicza awansowano nawet na kierownika tej placówki.

Z niewiadomych przyczyn, w trakcie roku szkolnego 1954/55, kierownikiem Szkoły Podstawowej w Grabowcu władze oświatowe uczyniły Ryszarda Masilewicza (w r. szk. 1954/55 jeszcze dokształcał się), który funkcję tę pełnił aż do lat dziewięćdziesiątych XX wieku.

Upadek stalinizmu w Polsce w końcu 1956 r. spowodował powrót prawosławnej religii do szkoły w Grabowcu, które to zajęcia zaczęto jednak prowadzić dopiero od roku szkolnego 1957/58. Szybko też lekcje religii wyprowadzono ze szkoły, co nastąpiło już w 1961 r.

W roku szkolnym 1960/61 w szkole w Grabowcu pracowało już pięciu nauczycieli. Nadal jednak białoruskość była w niej sprowadzona wyłącznie do jednego przedmiotu „język białoruski". Zasadniczą przyczyną takiego stanu rzeczy był skład kadry pedagogicznej. W roku szkolnym 1963/64 w statystykach władz oświatowych wykazano, iż tylko jeden nauczyciel był narodowości białoruskiej, zaś pozostali czterej narodowości polskiej. Dodać też należy, że w szkole — poza jej kierownictwem — stale następowała rotacja wśród grona pedagogicznego, co oczywiście nie przyczyniało się do stabilizacji nauczania w tej palcówce.

Analizując akta nadzoru oświatowego można odnieść wrażenie, iż wpływ rodziców na szkołę był raczej niewielki. Istniejący komitet rodzicielski nie podejmował bowiem inicjatyw mających wpływ na działalność szkoły. Na potwierdzenie takiej opinii warto przywołać wypowiedź urzędnika z Hajnówki, który tak oceniał lokalne środowisko przy okazji wizytacji szkoły w dniu 18 kwietnia 1964 r.: „W dyskusji poruszono sprawę współpracy szkoły ze środowiskiem. Ponieważ współpraca ta nie przebiega należycie w związku z bra-



kiem wyrobienia kulturalnego środowiska, Wydział Oświaty i Kultury w Hajnówce postanowił dać telewizor jako najbardziej atrakcyjny środek podnoszący kulturę na wsi, z tym, że 50% kosztów ceny pokryje szkoła. Projekt ten przyjęto i postanowiono zrealizować go jeszcze w bieżącym roku szkolnym."

Opisując działalność Szkoły Podstawowej w Grabowcu należy wymienić nazwiska nauczycieli, którzy prowadzili zajęcia z języka białoruskiego (po osobach już wymienionych wyżej). W roku szkolnym 1952/53 języka białoruskiego uczył Bazyl Szklaruk (ur. 1933 r., niekwalifikowany, rozpoczął pracę w szkolnictwie we wrześniu 1952 r. w Grabowcu). Jednak w następnym roku zajęcia te prowadziła już Lidia Leończuk (ukończyła dziewięć klas szkoły ogólnokształcącej, bez przygotowania pedagogicznego, zaczęła się dokształcać w r. szk. 1954/55). Następnie w latach 1955/56-1960/61 języka białoruskiego uczyła Nina Wierszko. Jednocześnie w roku szkolnym 1960/61 języka białoruskiego w klasach II-IV uczyła Lidia Wasiluk. W latach 1961/62-1964/65 języka białoruskiego uczyła Irena Jakowczyk, a po niej Anastazja Timoszuk (ukończyła filologię białoruską w Studium Nauczycielskim w Białymstoku, w szkolnictwie pracowała od ok. 1961 r.).

W połowie lat sześćdziesiątych XX wieku, w wyniku reformy oświatowej, Szkoła Podstawowa w Grabowcu stała się ośmioletnią, jednak nowy program nauczania przewidywał nauczanie języka białoruskiego dopiero od klasy drugiej, co ukazano w załączonej poniżej tabeli począwszy od roku szkolnego 1961/62. W efekcie w roku szkolnym 1970/1971 w Szkole Podstawowej w Grabowcu uczyło aż 7 nauczycieli.[11]

Na początku lat siedemdziesiątych XX wieku zmianie uległa polityka władz wobec mniejszości narodowych, a w tym statusu języka białoruskiego w szkolnictwie polskim. Spowodowało to kryzys w nauczaniu języka białoruskiego na Białostocczyźnie, co nie ominęło także szkoły w Grabowcu. W roku szkolnym 1972/73 liczba dzieci uczących się języka białoruskiego w tej placówce wyraźnie spadła i tendencja taka utrzymywała się aż do 1981 roku. Na tak niedobrą dla społeczności białoruskiej sytuację nałożył się jeszcze niż demograficzny[12].

Zmniejszanie się dzieci w wieku szkolnym odbijało się na organizacji placówek oświatowych. W roku szkolnym 1977/78 Szkoła Podstawowa w Grabowcu była już placówką o 5 nauczycielach[13]. Jednak w roku szkolnym 1988/89 uczyło w szkole aż siedmiu nauczycieli: Masilewicz Ryszard, Masilewicz Zofia (bibliotekarka), Trochimiuk Elżbieta, Zabrocka Nina, Ruszczyk Andrzej, Osipiuk Irena, Bujnowska Irena[14].

Przez cały okres działalności szkoły w Grabowcu istniała w niej biblioteka. W roku szkolnym 1950/51 księgozbiór liczył tylko 75 tytułów, z czego 64 dla uczniów i 6 dla nauczycieli. Ale już w czerwcu 1954 r. bibliotekę tworzyły 553 woluminy, natomiast po dziesięciu latach było to aż 1530 książek.

Natomiast na początku 1989 r. gminny inspektor oświaty i wychowania Bazyl Siegień tak charakteryzował szkolną bibliotekę: „Nie stwierdza się rażącego braku lektur szkolnych w bibliotece. Jest ich 512 pozycji, co daje na jednego ucznia 9,6 wolumina. W roku szkolnym 1987/88 zakupiono 92 pozycje na łączną kwotę 32.407 zł. Zbyt mała liczba lektur szkolnych w zakupach wynika nie ze złej woli bibliotekarki, a ich braku na rynku księgarskim. Biblioteka szkolna czynna jest 6 godz. tygodniowo — tj. w soboty dla klas VI-VIII, a w poniedziałki dla klas II-V."[15]

11 Archiwum Państwowe w Białymstoku, Prezydium Wojewódzkiej Rady Narodowej w Białymstoku, tom II. Kuratorium Okręgu Szkolnego w Białymstoku, sygn. 593.

12 Patrz: Archiwum Zakładowe Kuratorium Oświaty w Białymstoku, nieuporządkowane akta nadzoru oświatowego nad szkolnictwem z językiem niepolskim.

13 Tamże.

14 Archiwum Państwowe w Białymstoku, Gminna Rada Narodowa i Urząd Gminy w Dubiczach Cerkiewnych, sygn. 38, k. 13.

15 Archiwum Państwowe w Białymstoku, Gminna Rada Narodowa i Urząd Gminy w Dubiczach Cerkiewnych, sygn. 38, k. 12.

**Сцэнарыі ўрокаў** ГІМНАЗІЯ

# Тэма: «ПРЫТЧА ПРА ХЛЕБ» ПАВОДЛЕ МАКСІМА ТАНКА.

(Час — 2 х 45 хвілін)



Ян КАРЧЭЎСКІ

**МЭТЫ ЎРОКА:**

Вучань пасля ўрока:

- акрэслівае месца і ролю хлеба ў жыцці чалавека
- фарміруе ў сабе пачуццё пашаны да хлеба і чалавечай працы
- развівае ўмеласць вуснага выказвання
- інтэрпрэтуе народныя прыказкі і прымаўкі
- разбіраецца ў іншых тэкстах культуры (жывапіс, фільм)

**МЕТАДЫ І ФОРМЫ ПРАЦЫ:**

- гутарка з элементамі дыскусіі
- праца з тэкстам
- праца ў малых групах

**НАВУЧАЛЬНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ:**

- дыск з фільмам
- ксеракопіі карцін
- картачкі з народнымі прыказкамі і прымаўкамі
- картка з фрагментам манаграфіі Уладзіміра Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі»
- народны ручнік, хлеб

**ХОД УРОКА:**

- Арганізацыйны момант — праверка прысутнасці, раздача кніжак.
- Праверка хатняй працы.
- Увядзенне да новага ўрока.
- Адказ вучняў на загадку, запісаную настаўнікам на дошцы:

*Стаіць сасна,*
*на сасне лён,*
*на льне жыта.*
*(Стол, абрус, хлеб)*

- Запісанне тэмы ўрока (пад тэмай вучні запісваюць загадку разам з адказам, настаўнік на століку каля дошкі выкладае на народным ручніку хлеб).
- Адказ вучняў на пытанне: *Што такое хлеб?* (Прадукт харчавання, які выпякаецца з мукі)
- Гутарка настаўніка (Калі хлеб з’явіўся на стале ў чалавека?)

Гісторыкі лічаць, што вельмі даўно. Хлебнае зерне стала ежай чалавека больш як 10 тысяч гадоў таму. Спачатку людзі ўжывалі яго сырым, а потым навучыліся раздрабняць і падсмажваць на агні. Каля 8 тысяч гадоў таму з’явілася страва з назваю «каша». У глеі высахлага возера знайшлі закамянелы кавалак хлеба, якому прыкладна 6 тысяч гадоў.

Хлеб — наша жыццё. Таму людзі спрадвеку цанілі, бераглі, з любоўю ставіліся да яго. Пацвярджэнне таму — шматлікія творы фальклору, да якіх пяройдзем потым. Павагу да хлеба выказвалі і выказваюць пісьменнікі і мастакі (карціны Кастуся Цвіркі і Міхала Савіцкага). Паважаюць хлеб яшчэ і таму, што ён — добры лекавы сродак і рэкамендуецца пры многіх хваробах.

- Папаўненне гутаркі настаўніка цераз расказчыка сярод вучняў:

Перш за ўсё страва інтэрнацыянальная. Аснова ўсяго. Хлеб. Пшанічны, як на поўдні, у нас пякуць рэдка. Беларус любіць чорны хлеб і сумуе па ім, трапіўшы туды, дзе яго няма. Так што хлеб у нас жытні, вельмі духмяны. Пякуць яго ў печы, на капусных або кляновых лісцях, а пасля, спрыснуты вадою, астывае хлеб пад ручніком, напаўняючы хату найлеп-

шым у свеце пахам. Няма нічога смачней, як адрэзаць гарачую лусту, густа пасаліць яе і з'есці.

Хлеб даставаўся цяжка. Кінуць яго быў смяротны грэх. Абраніўшы (выпусціўшы з рук), трэба было падняць кавалак, пацалаваць і сказаць: «Даруй, божухна». Хлеб абагаўлялі (шанавалі, паважалі).

- Агляд фрагмента фільма Тамары Саланевіч „Kresowa Ballada", у якім жанчына вырабляе і пячэ хлеб.
- Абмеркаванне кадраў фільма:
  — якія часы адлюстроўвае фільм?
  — якую сімволіку вы прыкмецілі?
  — што вас тут зацікавіла?
- Запісанне вучнямі адказаў на пытанні.
- Абмеркаванне карцін Міколы Савіцкага.
- Праца з тэкстам «Прытча пра хлеб» Максіма Танка.
- Паясненне жанру прытча: невялікі іншасказальны твор павучальнага характару; пад звычайным апавяданнем хаваецца «іншая мудрасць і навука».
- Узорнае чытанне тэксту верша настаўнікам.
- Чытанне ўголас верша вучнямі.
- Паясненне незразумелых слоў.
  *Якія незразумелыя словы вы сустрэлі ў творы?*
  (супольнае паясненне)
  **дзірван** — неўзараная зямля,
  **луста** — адрэзаны кавалак хлеба.
- Вусныя адказы вучняў на пытанні да тэксту:

***Колькі ў творы галоўных герояў?***
Два — Вандроўнік і Хлеб

***На што наракаў Вандроўнік?***
На мяшок набіты хлебам

***Які чалавек можа вытрасці хлеб з мяшка?***
Неабачлівы, бяздумны

***Якіх людзей прадставіў аўтар у вобразе Вандроўніка?***
Неразумных, непрактычных, адарваных ад сваіх каранёў, людзей, якія не прывыклі адказваць за свае ўчынкі

***Ці ведае цану хлеба вандроўнік?***
Не ведае. Каб хлеб з'явіўся на стале, неабходна папрацаваць.

***Што ўвасобіў у вобразе Хлеба Максім Танк?***
Аўтар уславіў народную мудрасць і працавітасць.

***З кім аўтар параўнаў Хлеб?***
З сябрам, братам

***Чаму вандроўнік вярнуўся, каб пакланіцца да зямлі Хлебу?***
Вандроўнік зразумеў сваю памылку і вялікі сэнс слоў, якія сказаў Хлеб:
«Цябе нясу я»

***Якая ідэя твора?***
Мы зрэдку думаем пра хлеб. Яго значнасць мы разумеем толькі тады, калі хлеба ў нас няма.

***Якія вобразы Хлеба і Вандроўніка? — фантастычныя, сімвалічныя ці рэальныя?***
Гэта сімвалічныя вобразы. Вандроўнік сімвалізуе чалавечую бяздумнасць, а Хлеб — плён цяжкай працы.

- Інтэрпрэтацыя народных прыказак і прымавак пра хлеб (запісаць іх у сшыткі) — праца ў малых групах па 2 вучняў.
- Замацаванне і падвядзенне вынікаў працы на ўроку.

***Сімвалам чаго з'яўляецца хлеб?***
Сімвалам дабрабыту, чалавечай дабрыні, з'яўляецца мерай дастатку.

***Чаму хлеб трэба берагчы?***
Заўвага настаўніка пра патрэбу шанавання хлеба і пра адмоўныя з'явы ў адносінах да яго.

**ДАМАШНЯЕ ЗАДАННЕ**:
інтэрпрэтацыя народнага выслоўя, напрыклад: «Хлеб — усяму галава» пісьмова ў 4-5 сказах.

Ахвотным падрыхтаваць рэцэпт стравы з выкарыстаннем хлеба (свежага ці чэрствага).

**ДАДАТКОВЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ:**

Лінк да фільма „Kresowa Ballada”:
https://www.youtube.com/watch?v=l-M5hcR9vjw
(ад 2 мінуты 26 секунды)

**Прыказкі пра хлеб:**
*Не той багаты, хто мае срэбра і злата, а той, хто хлеб мае.*

*Хлеб і вада — няма галада.*

*Хлеб над усім пануе.*

*Найсмачнейшы хлеб ад сваёй працы.*

*Хлеб — усяму галава.*

*Калі ёсць хлеб і вада, то не бяда.*

*Лепш хлеб з вадою, як з бядою.*

*Слова да слова, а хлеб да абеда.*

*Калі хлеба край, дык і пад елкай рай.*

*Лепш абысціся без мяса, як без хлеба.*

*Рукі на мазалях, а ў торбе засохлы акрайчык.*

*Век пражыла, хлеба з сокам не ела: хлеб ёсць — соку няма, сок ёсць — хлеба няма.*

*Адзін сноп ці сто коп — хлеба на год.*

*Хто працаваць рады, той будзе хлебам багаты.*

**Карціны**

**Кастусь Цвірка — «Хлеб»**
Спасылка: http://istokduhovnosti.ucoz.org/photo/vital_cvirka_narodny_mastak_sssr/karciny/khleb_1982/32-0-640

**Міхал Савіцкі — «Хлеб»**
Спасылка: http://ministrkultury.livejournal.com/355179.html

**Ян КАРЧЭЎСКІ**

ЛІЦЭЙ **Сцэнарыі ўрокаў**

# Тэма: ВОБРАЗ ДЗЯЦЕЙ У ПАЭМЕ «НОВАЯ ЗЯМЛЯ»

(Час — 2 х 45 хвілін)

**МЭТЫ ЎРОКА:**

Вучань:
- вышукоўвае ў тэксце патрэбныя фрагменты
- дасцерагае сувязь твора з біяграфіяй аўтара
- аналізуе сабраныя меркаванні і факты
- робіць трапныя высновы
- выконвае нататку ў форме табеля
- рэдагуе пісьмовае выказванне на вызначаную тэму
- разбіраецца ў іншых тэкстах культуры (жывапіс, фільм)
- вызначае ролю сям'і ў працэсе выхавання маладога чалавека

**МЕТАДЫ І ФОРМЫ ПРАЦЫ:**

- гутарка з элементамі дыскусіі
- праца з тэкстам
- дыскусія

**НАВУЧАЛЬНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ:**

- ксеракопіі карцін па паэме «Новая зямля»
- дыск з фільмам «Новая зямля»
- польска-беларускі слоўнік

**ХОД УРОКА:**

- Арганізацыйны момант — прысутнасць, раздача кніжак.
- Праверка хатняй працы.
- Адказ вучняў на пытанні паводле зместу паэмы «Новая зямля»:
- гісторыя напісання твора?
- чаму гэта твор аўтабіяграфічны?
- чаму паэму Якуба Коласа называем энцыклапедыяй жыцця беларускага сялянства канца 19-га — пачатку 20-га стагоддзя?
- якая ідэя твора?
- кароткае прадстаўленне вобразаў галоўных герояў
- Уводзіны да новай тэмы.
- Слова настаўніка — мы ўжо пазнаёміліся з галоўнымі героямі паэмы «Новая зямля» Якуба Коласа. Усе яны — людзі дарослыя, сталыя. Аднак жа немалую ўвагу ў сваім творы аўтар адводзіць дзецям. Такім чынам сёння мы пазнаёмімся з наймалодшымі персанажамі паэмы Коласа.
- Падзел класа на тры вялікія групы.
- Вызначэнне заданняў кожнай групе.
  1. вышукаць фрагменты адносна працы дзяцей,
  2. вышукаць фрагменты, у якіх гаворыцца пра адпачынак дзяцей,
  3. фрагменты наконт вучобы дзяцей.
- Выкананне табеля на дошцы.
- Вышукоўванне і зачытванне вучнямі адпаведных фрагментаў тэксту, супольны аналіз, запісванне высноваў.

| Праца | Адпачынак | Вучоба |
|---|---|---|
| малацілі цэпамі збожжа | хадзілі ў лес за бярозавым сокам | вучыліся ў дарэктара (**фільм**) |
| пасвілі жывёлу | варылі клёцкі | расказвалі сабе розныя гісторыі |
| зімой насілі козам сена | лавілі рыбу | выхаваўчыя метады бацькі |
| іншыя ... | каталіся на лёдзе | прыгода з «Начаткамі» |
| | палявалі | поспехі Костуся |
| | іншыя ... | іншыя ... |

- Падсумаванне.
- На аснове сабранага матэрыялу вучні абмяркоўваюць ілюстрацыі да паэмы «Новая зямля».
- Дыскусія сярод вучняў на тэму: Як выглядала дзяцінства калісьці (у пачатку XX стагоддзя) і як выглядае цяпер (у пачатку XXI стагоддзя)? Выявіце падабенствы і розніцы. (Магчымыя падабенствы: бестурботнае, вясёлае, гульні дзяцей, хваляванні звязаныя з вучобай ... Магчымыя розніцы: дзяцінства ў горадзе, дапамога бацькам, вучоба, доступ да тэхнікі, зацікаўленні ...)
- Пісьмовыя выказванні вучняў на пададзеную вышэй тэму (90-100 слоў).

**ХАТНЯЯ ПРАЦА:**

Дакончыць свае пісьмовыя выказванні.

**Ян КАРЧЭЎСКІ**

II КЛАС ЛІЦЭЯ

**Сцэнарыі ўрокаў**

# Тэма: ЗАЙМЕННІК ЯК ЧАСЦІНА МОВЫ.

## Лексіка-граматычныя разрады займеннікаў



Іна ВЕНСКО

**МЭТЫ ЎРОКА:**

дапамагчы вучням асэнсаваць асаблівасці займенніка як часціны мовы; замацаваць веды пра іншыя самастойныя часціны мовы; развіваць уменне правільнага выбару займенніка ў пісьмовым і вусным маўленні; выхоўваць любоў і цікавасць да роднай мовы.

**ТЫП УРОКА**: тлумачэнне новага матэрыялу

**АБСТАЛЯВАННЕ**: падручнік „Практычная беларуская граматыка", тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы, карткі з тэкстам.

**ХОД УРОКА**

**1. Арганізацыйны момант**

**2. Праверка хатняй працы**

**3. Тлумачэнне новай тэмы**

Настаўнік запісвае тэму ўрока на дошцы (вучні — у сшытках), паведамляе пра мэты ўрока і ставіць задачы перад вучнямі.

**Настаўнік:** Мы пачынаем вывучаць новую часціну мовы — гэта займеннік. Ён, як і іншыя часціны мовы, мае сваю адметнасць. Але перад тым, як пачаць разглядаць займеннік, давайце ўзгадаем, якія самастойныя часціны мовы вы ўжо ведаеце. (Адказы вучняў)

**Настаўнік:**
— Што абазначае назоўнік? Якія граматычныя прыкметы яму ўласцівы?
— Што абазначае прыметнік? Якія граматычныя прыкметы прыметнікаў вы можаце назваць?
— Што абазначае лічэбнік? Як змяняюцца лічэбнікі?
Настаўнік падагульняе адказы вучняў.

**Настаўнік:** А цяпер вазьміце карткі, якія ляжаць на вашым стале (былі загадзя раздадзены). Давайце прачытаем тэкст. Пры гэтым звярніце асаблівую ўвагу на выдзеленыя словы.

Праца з тэкстам на картках:

*Наступіла вясна.* ***Яна*** *сустрэла нас сонечным цяплом. На дрэве,* ***якое*** *стаіць насупраць* ***майго*** *акна, вісіць новенькая шпакоўня. Толькі ўчора я з бацькам скончыў* ***яе****.* ***Мая*** *шпакоўня чакае першых гасцей. А вось у суседа такія шпакоўні вісяць даўно, і штогод* ***іх*** *усё больш. А вось і шпакі! Адзін, два, тры... і яшчэ* ***некалькі****!*

Калі вучням былі незразумелыя нейкія словы, то высвятляюць іх значэнне, карыстаючыся тлумачальным слоўнікам.

**Настаўнік:**
— Замест якіх часцін мовы ўжыты выдзеленыя словы?
— Што дапамагло вам зразумець значэнне займеннікаў? (Адказы вучняў)

**Настаўнік:** Такім чынам, у беларускай мове ёсць словы, якія ўжываюцца замест назоўнікаў, прыметнікаў і лічэбнікаў. Гэта займеннікі. І зразумець іх значэнне нам дапамагае кантэкст, сказ.
Вучні запісваюць у сшыткі, што такое займеннік:

*Займеннік — гэта самастойная часціна мовы, якая ўказае на прадмет, прымету прадмета, колькасць, не называючы іх.*

***Настаўнік:*** Займеннікаў няшмат, але яны часта ўжываюцца ў мове і іх роля вялікая.

Паводле лексічнага значэння і граматычных прымет, займеннікі падзяляюцца на некалькі разрадаў:

- абагульнена-прадметныя
- абагульнена-якасныя
- абагульнена-колькасныя
- абагульнена-прыслоўныя

Праца з тэарэтычнай часткай падручніка (ст.152-153). Вучні канспектуюць новы матэрыял.

**4. Фізкультхвілінка**

**5. Замацаванне новага матэрыялу**

Вусная і пісьмовая праца з практыкаваннямі школьнага падручніка.

**Настаўнік:** Яшчэ ў пачатку ўрока я казала, што роля займенніка вялікая. У чым жа яна заключаецца? Чаму так неабходна ўжываць займеннікі ў вусным і пісьмовым маўленні? Паспрабуйце адказаць на гэтыя пытанні, праслухаўшы невялічкі фрагмент тэксту.

Настаўнік зачытвае тэкст:
*Бабры — руплівыя гаспадары. Уважліва сочаць бабры за станам свайго жылля, заўсёды ўмацоўваючы і рамантуючы жыллё. Знізу і знутры бабровыя хаткі моцна сцэментаваныя глеем. Нялёгка прабрацца ў такую хатку. У ёй бабёр адчувае сябе ў поўнай бяспецы.*

*Будуе хатку галоўным чынам бабрыха. Гэта бабрыха абкладвае логава палкамі, абмазвае іх глеем і глінай, кладзе зверху новыя рады палак. Бабёр тым часам рыхтуе новы будаўнічы матэрыял. Бабёр валіць маладыя дрэўцы, ачышчае дрэўцы ад сучча, разгрызае ствалы на роўныя часткі і па вадзе дастаўляе роўныя часткі да месца будоўлі.*
(Адказы вучняў)
Калі вучням былі незразумелыя нейкія словы, то высвятляюць іх значэнне, карыстаючыся тлумачальным слоўнікам.

**6. Абагульненне вывучанага**

Настаўнік прапануе вучням у форме гульні „Згодны — не згодны" абагульніць і яшчэ раз замацаваць атрыманыя ў часе ўрока веды. Калі вучань згодны з запісам на дошцы — падымае руку, калі не згодны — не падымае.

- *Займеннік — гэта службовая часціна мовы. (Не, самастойная)*
- *Займеннік называе прадмет, прымету, колькасць. (Не, толькі ўказвае на іх)*
- *Займеннік — зменная часціна мовы. (Так)*
- *Значэнне займенніка дапамагае раскрыць кантэкст, сказ. (Так)*

**7. Рэфлексія**

**Настаўнік:**

- Ці зразумелі вы сённяшнюю тэму ўрока?
- Якія ў вас ёсць пытанні па тэме?
- Ацаніце ступень засваення новага матэрыялу ад 0 да 10.

**8. Выстаўленне адзнак**

**9. Тлумачэнне хатняй працы**
Д/з.: вывучыць тэорыю, пісьмова 1-2 практыкаванні з падручніка.

**Іна ВЕНСКО**

# І КЛАС ЛІЦЭЯ

Сцэнарыі ўрокаў

## Тэма: ПРАВАПІС У І Ў

**МЭТЫ ЎРОКА:** замацаваць і паглыбіць веды вучняў пра правапіс „у" і „ў"; паўтарыць атрыманыя раней веды пра адрозненне складовых і нескладовых гукаў; развіваць уменне правільнага пісьма і маўлення; вучыць прымяняць атрыманыя веды на практыцы; выхоўваць любоў да роднага слова.

**ТЫП УРОКА:** тлумачэнне новага матэрыялу

**АБСТАЛЯВАННЕ:** тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы, правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, карткі „Правілы напісання У і Ў", фотаздымак помніка ў Полацку літары Ў.

**ХОД УРОКА:**

**1. Арганізацыйны момант**

**2. Праверка хатняй працы**

**3. Уступнае слова настаўніка**
Настаўнік павінен падрыхтаваць вучняў да авалодання новай тэмай.

**Настаўнік:** Калі ласка, звярніце ўвагу на словы, якія запісаны на дошцы. Паспрабуйце ўставіць прапушчаныя літары:

*Ласта...ка, б...сел, па...ночны, ва ...ніверсітэце, па...за, аквары...м, Міхась і ...льяна, з ...смешкай, в...ліца*

Вучні самастойна працуюць над заданнем, пасля правяраюць разам з настаўнікам.

**Настаўнік:** Ці значэнне ўсіх запісаных на дошцы слоў вам зразумелае? (Калі не, то вучні карыстаюцца тлумачальным слоўнікам.)

**4. Паведамленне пра тэму і мэты ўрока, пастаноўка задач**

**Настаўнік:** Як вы лічыце, якая тэма нашага сённяшняга ўрока? (Адказы вучняў)

Настаўнік запісвае тэму на дошцы (вучні — у сшыткі), пасля агучвае мэты ўрока і ставіць перад вучнямі канкрэтныя задачы, акрэслівае ход урока.

**5. Вывучэнне новага матэрыялу**

**Настаўнік:** Перад тым, як мы пачнем разглядаць з вамі правілы напісання „У" і „Ў", хачу звярнуць вашу ўвагу на тое, што правапіс пашырыўся ў „Новых правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі". І змены тычыліся таксама напісання „У" і „Ў".

Знаёмства з кнігай новых правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі.

**Настаўнік:** Давайце з вамі ўзгадаем, чаму гук [у] называецца складовым, а [ў] — нескладовым? (Адказы вучняў)

Настаўнік раздае вучням карткі „Правілы напісання У і Ў" і разам з вучнямі аналізуе кожны з пунктаў правіла.

**ПРАВАПІС У І Ў**

**„Ў" (нескладовае)** пішацца згодна з беларускім літаратурным вымаўленнем пасля галосных:

- у пачатку слова (калі гэта слова не пачынае сказ і перад ім няма знакаў прыпынку): *на ўвесь дзень, моцны ўдар, хацела ўзяць, сонца ўзімку, крыкі «ўра», для ўніята, ва ўніверсітэце, беларуска-ўкраінскі слоўнік, сцягі ўзвіліся, ледзьве ўбачыў;*

- у сярэдзіне слова перад зычнымі: *аўдыенцыя, саўна, фаўна, аўра, джоўль, каўчук, маўзер, паўза, раўнд;* але: *траур;*
- пры чаргаванні [л] з [ў]: *даў, мыў, казаў, змоўклі, воўк, шоўк, поўны, моўчкі, паўметра, боўтаць;* але: *палка, памылка, сеялка, Алдан, Алжыр, Албанія, Волга, Балгарыя;*
- пры чаргаванні [в] з [ў]: *лаўка (лава), зноўку (новы), аўса (авёс), бацькаў (бацькавы), кроў (крыві), любоў (любові), кароў (карова), гатоў (гатовы), Аўстрыя, Аўдоцця, Каўказ;* але: *краіна В'етнам, рака Влтава, змаганне за В'енцьян.*

**„У" (складовае)** пішацца:

- у канцы запазычаных слоў: *фрау, Шоу, Ландау, Каратау, Цэміртау, ток-шоу, ноу-хау;*
- пад націскам: *да у'рны, Брэсцкая у'нія, групоўка у'льтра, чулася у'ханне, ау'л, бау'л, ау'каць, у выклічніках у (у, нягоднікі!), ух (ух ты!), уй (уй, які смешны!);*
- у запазычаных словах, якія заканчваюцца на *-ум, -ус: прэзідыум, кансіліум, радыус, страус, соус і г.д.* (і вытворных ад іх);
- у пачатку ўласных імён і назваў і заўсёды перадаецца вялікай літарай „У" складовае без надрадковага значка**:** *ва Узбекістан (для ўзбекаў), на Уральскіх гарах (на ўральскіх дарогах), ва Украіне (за ўкраінцаў), да Уладзіміра, каля Ульяны.*

**6. Паглыбленне ведаў па тэме**

**Настаўнік:** А ці ведае хто з вас, што ў Беларусі ёсць горад, у якім паставілі помнік нашай непаўторнай літары Ў? (Настаўнік паказвае вучням фотаздымак помніка і расказвае пра яго)

*У Полацку адкрыты самы незвычайны помнік у краіне — у гонар уласна беларускай літары Ў, якая адрознівае наш алфавіт ад азбук іншых славянскіх моў.*
*Ў — гэта 22-я літара беларускага алфавіта — у беларускай пісьменнасці стала ўжывацца дзесьці з 1890-х гадоў. І вось 7 верасня 2003 года ў Полацку падчас 10-га святкавання Дзён беларускага пісьменства ўдзячнымі нашчадкамі яна была ўганаравана помнікам. Ён зроблены ў выглядзе стэлы, на яе гранях размешчаны рэльефныя выявы літары. Помнік можа служыць сонечным гадзіннікам.*

**Настаўнік:** Дарэчы, а якія славутыя людзі нарадзіліся ў Полацку? (Адказы вучняў)

**7. Замацаванне ведаў на практыцы**

**Настаўнік:** А зараз я буду называць словы, а ваша задача — запісаць іх у 2 слупкі, размяркоўваючы паводле правапісу. Гэта значыць, у першы слупок будзеце запісваць словы, якія, на вашу думку, будуць пісацца з У, а ў другі слупок — з Ў.

*Доўгі, соус, студзень, трыумф, думка, страус, воўк, любоў, праўда, моўчкі, здароўе, Паўліна, салаўі, бавоўна, шлагбаум, сліўка, натоўп, кухня, Люблінская унія, перад узлётам, поўны, кнігаўка, шоу, будоўля, акварыум*

Вучні мяняюцца сшыткамі (узаемаправерка) і па чарзе тлумачаць правапіс прадыктаваных ім слоў. У выпадку наяўнасці новых ці незразумелых слоў — карыстаюцца тлумачальным слоўнікам.

**8. Падвядзенне вынікаў працы на ўроку і выстаўленне адзнак**

**9. Тлумачэнне хатняй працы**

Д/з.: Вывучыць правілы напісання У і Ў, прыдумаць і запісаць у сшытку 6-7 сказаў на пункты з правіла.

**10. Рэфлексія**
Настаўнік задае пытанні, а вучні падымаюць руку.

**Настаўнік:**
- Каму ўсё было зразумела?

- У каго засталіся пытанні? Якія?
- Хто адчувае, што яму трэба яшчэ папрацаваць над гэтай тэмай?

**11. Заключнае слова настаўніка**

**Настаўнік:** А развітацца я з вамі хачу радкамі з верша Васіля Жуковіча:

*У акіяне слова —*
*Ані мяжы, ні донца.*
*Ёсць там адна аснова:*
*Праца і праца бясконца!*

Няхай гэтыя словы стануць дэвізам у вашай вучобе.
Усяго добрага! Да сустрэчы.

**Іна ВЕНСКО**

**Сцэнарыі ўрокаў**

## II КЛАС ЛІЦЭЯ

# Тэма: «НАША НІВА» І ЯЕ РОЛЯ Ў ФАРМАВАННІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ

**МЭТЫ ЎРОКА:**

паглыбіць веды вучняў пра літаратуру пачатку XX ст.; дапамагчы ўспрыняць сутнасць нацыянальнага адраджэнскага руху і ролі ў ім газеты „Наша Ніва"; развіваць уменне правільна, выразна і асэнсавана гаварыць і чытаць; абудзіць цікавасць да беларускай літаратуры; выхаваць пачуццё гонару за свой народ і культуру.

**ТЫП УРОКА:** тлумачэнне новага матэрыялу

**АБСТАЛЯВАННЕ:** хрэстаматыя „Беларуская літаратура", тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы, выявы газеты „Наша Ніва", раздрукоўкі «Асаблівасці нашаніўскага перыяду ў развіцці беларускай літаратуры»

**ХОД УРОКА:**

- **Арганізацыйны момант**
- **Праверка хатняй працы**
- **Паведамленне тэмы і мэты ўрока**
- **Тлумачэнне новага матэрыялу**

**Настаўнік:** Нашаніўскі перыяд у развіцці беларускай літаратуры пачатку XX ст. — гэта перыяд выхаду ў свет газеты „Наша ніва" (1906-1915 гг.), калі вакол газеты згуртавалася пісьменніцкае асяроддзе, прыняўшае ідэі нацыянальнага адраджэння.

Але перш, чым характарызаваць нашаніўскі перыяд і казаць пра яго ролю, думаю, варта вызначыць, якімі ж былі ідэі нацыянальнага адраджэння пачатку XX ст.? Выступае вучань, які меў апераджальнае заданне.

**Вучань:**

- На першы план выходзілі ідэі адраджэння культурных і літаратурных традыцый мінулага, творчага засваення традыцый народнай культуры, творчага асэнсавання вопыту гісторыі.

- Адна з важных праблем, без якіх немагчыма нацыянальнае адраджэнне,
  1. праблема роднай мовы. Адсюль вынікаюць задачы адраджэння:
  2. адукацыя на роднай мове;
  3. стварэнне мастацкай літаратуры на роднай мове;
  4. стварэнне падручнікаў на роднай мове;
  5. стварэнне перыядычнага друку для дзяцей, школьнікаў, моладзі (агучвалі гэтыя ідэі ў тэарэтычным плане і практычна іх вырашалі такія асветнікі пачатку XX ст., як С. Палуян, Цётка — „Першае чытанне для дзетак беларусаў", Я. Колас — „Першае чытанне для дзяцей беларусаў" і інш.).

- Нацыянальнае выхаванне ў кантэксце нацыянальных традыцый. А гэта ў сваю чаргу з'яўляецца падмуркам для фармавання трывалай нацыянальнай самасвядомасці асобы. Адчуванне такой нацыянальнай самадастатковасці павінна прывесці затым, як вызначыў пазней В. Ластоўскі, да наступнай вельмі важнай з'явы ў духоўным жыцці нацыі: „каб беларус захацеў застацца беларусам".
- Ідэя непаўторнасці і нацыянальнай самадастатковасці Радзімы.

- У вышэй акрэсленых умовах павінен быць самы галоўны носьбіт ідэй нацыянальнага адраджэння, які б аператыў-

на даносіў гэтыя ідэі да шырокіх колаў народных мас. Такім носьбітам у пачатку ХХ ст. стала газета „Наша ніва".

- Ідэя гаранта здзяйснення вышэй акрэсленых ідэй (такім гарантам павінна быць дзяржава і яе ўрад, які прыхільна ставіцца да праблем нацыянальнага адраджэння). Трагічным для беларускага адраджэння пачатку ХХ ст. было тое, што пры наяўнасці вышэй акрэсленых ідэй сапраўднага гаранта, здзяйсняльніка комплексу гэтых ідэй не было. Такім гарантам у часы беларусізацыі 20-х гг. ХХ ст. была дзяржава, але к канцу гэтага перыяду дзяржава становіцца на шлях барацьбы з нацыянальна-патрыятычнымі ідэямі і іх носьбітамі.

**Настаўнік:** А як вы думаеце (пытанне да ўсяго класа), якім жа чынам усё вышэй акрэсленае тычыцца літаратуры? (Адказы вучняў, якія настаўнік пасля падагульняе)

**Настаўнік:** Паколькі носьбітамі ідэй адраджэння былі пісьменнікі, дзеячы народнай асветы, якія мелі схільнасць да літаратурнай творчасці, то, натуральна, гэтыя ідэі ў мастацкіх вобразах, сюжэтах, праблематыцы даносіліся да грамадзян праз літаратуру, якая мела магчымасці такім чынам уздзейнічаць на чытача, каб той захацеў змяніць сваё і грамадскае жыццё да лепшага. А гэтым лепшым у нацыянальным адраджэнні былі незалежнасць і воля: духоўная, інтэлектуальная, нацыянальная, псіхалагічна-асобасная, дзяржаўная.

А зараз вазьміце раздрукоўкі, якія я вам раздала. Давайце разам прачытаем і акрэслім асаблівасці нашаніўскага перыяду ў развіцці літаратуры пачатку ХХ ст. (Вучні чытаюць па чарзе, значэнне незразумелых слоў правяраюць у тлумачальным слоўніку)

**Асаблівасці нашаніўскага перыяду ў развіцці беларускай літаратуры**:

- «Наша ніва» вельмі многа зрабіла ў выяўленні, згуртаванні і збіранні літаратурных сіл. Вакол газеты гуртаваліся аўтары ўсіх веравызнанняў і кірункаў, якія выступалі за культурна-нацыянальнае адраджэнне Беларусі. Сфармавалася асаблівае пісьменніцкае асяроддзе вакол газеты (С. Палуян, В. Ластоўскі, Ядвігін Ш., Я. Купала, Я. Колас, і інш.), з'явілася шмат вясковых настаўнікаў, якія спрабавалі свае сілы ў літаратуры, да пяра пацягнуліся сяляне і рабочыя. З газетай «Наша ніва» звязаны першыя выступы ў друку многіх вядомых беларускіх пісьменнікаў. Невядома, як бы склаўся далейшы літаратурны лёс М. Багдановіча, калі б газета не надрукавала 6 ліпеня 1907 года яго апавяданне «Музыка». З допісаў у газету пачыналі сваю творчасць Ц. Гартны, З. Бядуля, А. Гурло. На старонках газеты выступілі з першымі творамі А. Гарун, У. Галубок, Г. Леўчык, Я. Журба, А. Петрашкевіч, К. Лейка і іншыя. Вялікая заслуга ў гэтым рэдакцыі, якая вельмі прыхільна і зычліва ставілася да пачынаючых аўтараў, падтрымлівала іх крокі на літаратурнай дарозе, давала слушныя парады, падказвала тэму і г.д. Аддзел газеты «Паштовая скрынка» — яскравае сведчанне ўмелай працы рэдакцыі са сваімі аўтарамі.

- Найважнейшай задачай «Наша ніва» лічыла ўсебаковае развіццё эканомікі, грамадскай духоўнай культуры народа, стварэнне нацыянальнага стылю мовы і нацыянальных школ у беларускай літаратуры, тэатры, музыцы, выяўленчым мастацтве шляхам засваення айчынных этна-культурных традыцый і творчых здабыткаў сусветнай, найперш рускай, украінскай, польскай мастацкіх літаратур.

- На старонках газеты адбывалася станаўленне беларускай літаратурна-мастацкай крытыкі, публіцыстыкі, культуралогіі, фалькларыстыкі (артыкулы, нарысы, даследаванні Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Гарэцкага, В. Ластоўскага і інш.).

- Газета знаёміла сваіх чытачоў не толь-

кі з вершамі, паэмамі і апавяданнямі беларускіх аўтараў. На яе старонках друкаваліся ў перакладзе лепшыя творы рускіх, украінскіх і польскіх пісьменнікаў, а таксама паасобныя ўзоры сусветнай літаратуры. Шырока адзначаліся юбілейныя даты выдатных прадстаўнікоў славянскай культуры. Толькі ў 1909-1910 гг. на старонках «Нашай нівы» з'явіліся артыкулы ў сувязі са стагоддзем з дня народзінаў М. Гогаля, Ю. Славацкага, Ф. Шапэна, некралогі пра Л.Талстога, М. Канапніцкую, Э. Ажэшку і Б. Грынчанку, у перакладзе на беларускую мову друкаваліся творы М. Гогаля, Л. Андрэева, Ю. Брусава, В. Караленкі, В. Стэфаніка, славацкага пісьменніка С. Ваянскага. Былі яшчэ пераклады з англійскай, кітайскай, нямецкай, літоўскай і іншых моў.

- З дзейнасцю «Нашай нівы» звязана значнае ажыўленне беларускага кнігадрукавання ў Вільні і Мінску. «Наша ніва» была свайго роду грамадскім інстытутам беларускай культуры, выконвала ролю каардынатара выдавецкага цэнтра. Напрыклад, у 1907-1913 гг. яе намаганнямі апублікаваны зборнікі «Песні-жальбы» і «Апавяданні» Я. Коласа, «Вянок» М. Багдановіча, «Бярозка» Ядвігіна Ш., літаратуразнаўчыя брашуры Зямкевіча, перакладныя творы. Яна выпускала штогадовы «Каляндар «Нашай нівы», альманахі «Зборнік «Нашай нівы», «Калядную пісанку» і інш.

- Выключная роля належыць газеце ў далейшым развіцці і ўзбагачэнні беларускай літаратурнай мовы. На старонках «Нашай нівы» адбываўся нялёгкі і паступовы працэс выпрацоўкі і складвання норм беларускага правапісу.

- Шмат рабіла газета для развіцця і папулярызацыі беларускай нацыянальнай культуры — тэатра, музыкі, вуснай народнай творчасці, выступала з патрабаваннямі і абгрунтаваннем права беларускага народа мець школу на роднай мове.

- Дзякуючы беларускай газеце ў прагрэсіўным рускім, украінскім, польскім, чэшскім друку з'яўляюцца артыкулы, прысвечаныя Беларусі і беларускаму пытанню, публікуюцца пераклады твораў Купалы, Коласа і іншых беларускіх пісьменнікаў.

Калі падчас працы з матэрыялам у вучняў узнікаюць праблемы з разуменнем значэння некаторых слоў, то карыстаюцца тлумачальным слоўнікам.

**Настаўнік:** Пасля таго, як «Наша ніва» перастала выходзіць у свет, нашаніўскія ідэі, рух і традыцыі не спынілі сваё існаванне. Яны працягвалі развівацца ў літаратурнай творчасці пісьменнікаў (узбагачаліся, ілюстраваліся ў мастацкіх вобразах, ідэях, літаратурных традыцыях і інш.). Праўда, ужо пачынаючы з канца 1920-х гг., асабліва ў 30-ыя гады, прыналежнасць да нашаніўскага руху, абарона яго ідэяў, следаванне гэтым ідэям у літаратурнай творчасці лічыліся заганным і нават варожым новым грамадска-культурным ідэалам. Але гэта ўжо іншая тэма, якую мы таксама ў недалёкай будучыні будзем разглядаць.

- **Абагульненне**

**Настаўнік:**
- Якія былі ідэі нацыянальнага адраджэнскага руху пачатку XX ст.? (Адказы вучняў)
- Як вы акрэсліце ролю газеты «Наша ніва» ў развіцці беларускай літаратуры? (Адказы вучняў)
- Рэфлексія
- Выстаўленне адзнак

- **Хатняя праца**

Д/з.: падрыхтаваць матэрыял канспекта і раздрукоўкі, прачытаць артыкул з газеты „Наша ніва" «Які шрыфт?» (ст.129-131) і падрыхтавацца да іх пераказу.

**Іна ВЕНСКО**

II КЛАС ЛІЦЭЯ **Сцэнарыі ўрокаў**

# Тэма: РАЗВАЖАННІ ПРА СПАДЧЫНУ НА ПАДСТАВЕ ВЕРША ЯНКІ КУПАЛЫ „СПАДЧЫНА".



Яўгенія ТАРАНТА

**МЭТЫ ЎРОКА:**

Вучань:
- прыгожа чытае мастацкі твор
- разумее тэрмін „спадчына"
- карыстае са слоўніка — высвятляе незразумелыя словы
- выказваецца на тэму паасобных строф верша
- адклікаецца да кантэкстаў
- прэзентуе ўласныя думкі
- называе галоўную думку твора, ...
- шукае мастацкіх сродкаў вобразнасці
- выказваецца на тэму кампазіцыі і інтанацыі верша
- характарызуе лірычнае „я"

**ЧАС:** 90 мінут

**МЕТАДЫ ПРАЦЫ:** „мазгавы штурм", праца з тэкстам, праца са слоўнікамі (тлумачальным і сінонімаў), кіраваная размова

**ФОРМЫ ПРАЦЫ**: індывідуальная, калектыўная

**НАВУЧАЛЬНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ:** запіс песні „Спадчына", тэксты верша, тлумачальныя слоўнікі беларускай мовы, слоўнікі сінонімаў і блізказначных слоў.

**ХОД УРОКА:**
**I. Арганізацыйны момант.**

**II. Уводзіны ў тэму.**

**1.** Вучні слухаюць песню на словы верша Янкі Купалы „Спадчына".

**2.** Размова на тэму песні.
- *аб чым песня?*
- *які ўводзіць настрой напр.: меланхоліі, спакою, тугі, прыемны...*

**3.** Запісанне асацыяцый да слова „спадчына".
*— напр.: матэрыяльнае багацце, грошы, дом, сям'я, радзіма, мова, культура, фальклор, малая айчына ... .*

**III. Рэалізацыя тэмы.**

**1.** Запісанне тэмы і названне мэты ўрока.
- *Галоўнай мэтай нашага ўрока ёсць пазнаёміцца з вершам другога перыяду творчасці Янкі Купалы, пагутарыць на тэму „спадчыны", звярнуць увагу на спосаб яе прадстаўлення.*

**2.** Вучні працуюць са слоўнікамі — шукаюць значэння слова „спадчына" і сінонімаў да яго.
- ***спадчына — маёмасць, якая пасля смерці ўладальніка пераходзіць у чыю-небудзь уласнасць,***
- ***з'явы культуры, побыту ўспрынятыя ад мінулых часоў.***

**3.** Настаўнік чытае верш.

**4.** Супольнае высвятленне незразумелых слоў, напр.
*— спакон вякоў — з даўніх часоў*
*— праталіны — месцы, дзе растаў снег*
*— тын — агароджа з жэрдак пераплеценых лазой*
*— лёг покатам — адзін каля аднаго, без асобага парадку*
*— бляянне-зоў — голас ягнят*
*— не збрыў — не прапаў*
*— вандолы — упадзіны, лагчыны, яры, ніжэйшыя месцы*

**5.** Вучні самастойна чытаюць верш, выказваюць свае першыя думкі на яго тэму, напр.
*— верш пра спадчыну, якую астаўляюць нам продкі*

*— падкрэсліваецца значэнне спадчыны ў жыцці чалавека*
*— верш просты, зразумелы, лёгка чытаецца.*

**6.** Супольны аналіз чарговых мастацкіх вобразаў — прыглядаемся кожнай страфе верша, прыводзім асацыяцыі, інтэрпрэтуем.

- *Які характар мае першая страфа?*

*— У ёй паведамляецца аб спадчыне, якая асталася чалавеку з даўніх часоў („спакон вякоў"). Яна вельмі дарагая яму, аб чым сведчыць метафара „яна мне ласкай матчынай".*

- *Гляньце на тры наступныя строфы і скажыце, якія вобразы выклікаюць замілаванне да спадчыны?*

*— „вясеннія праталіны"*
*— „лесу шэлест верасны"*
*— „у полі дуб апалены"*
*— „на ліпе бусел"*
*— „стары амшалы тын ... ля вёсак"*
*— „блуднае ягнят бляянне-зоў на пасьбішчы"*
*— „крык вароніных грамад на ... кладбішчы"*
*— гэта значыць родная прырода*

Падсумаванне выказванняў вучняў.

- *Як бачыце, радзіма прадстаўляецца не ва ўзнёслым разуменні. Гэта не сцягі, не будынкі для высокіх уладаў, а гэта прырода ўвесну і восенню („шэлест верасны"), не толькі прыгожая, але і ў драматычным абліччы („дуб апалены", „стары амшалы тын").*

- *Які настрой уводзіцца ў трэцяй і чацвёртай страфе („стары амшалы тын ... ля вёсак", „нудная ягнят бляянне...", „крык вароніных грамад на могілкавым кладбішчы") - нпр. сумны, тужлівы, безнадзейнасці ...*

Вучні чытаюць тры наступныя строфы.

- *Што характэрнае для пятай страфы?*

*— Характэрны непакой. Лірычнае „я" абыходзіць дарагія яму мясціны ў розныя поры дня („І ў белы дзень і ў чорну ноч /Я ўсцяж раблю агледзіны") з мэтай праверыць ці гэты скарб не прапаў.*

- *Як разумееце слова скарб?*

*— грошы, каштоўнасці, дарагія рэчы ...*

- *Чым ёсць для лірычнага „я" гэты скарб? Гляньце яшчэ раз на першую страфу.*

*— спадчынай*

- *Да чаго параўноўваецца спадчына, гэты скарб?*

*— да „вечнага светача полымя"*

Супольнае высвятленне значэння слова „светач".

*— светач - у прамым значэнні, тое, што асвятляе, дае святло,*
*— у пераносным значэнні, тое, што нясе з сабой праўду, асвету, свабоду*

- *З якой мэтай, як думаеце, аўтар выкарыстаў прыметнік і прыдатак?*

*— каб падкрэсліць сілу таго, што носіць" у жывой душы", моц духоўнай каштоўнасці, якой з'яўляецца спадчына; яна павінна" свяціць вечна", заўсёды*

- *Адклікніцеся да біяграфіі аўтара, гістарычных фактаў і скажыце, ці ёсць прычыны да непакою пра гэты „скарб"?*

*— У вершы сцвярджаецца, што ён можа быць „з'едзеным трутнем", што ён знаходзіцца „між сваіх і чужакоў". Гэтымі „трутнямі" і „чужакамі" з'яўляюцца ворагі беларускага народа, якім яго справа абыякавая.*
*— У гісторыі Беларусі было многа „цемры і глушы", „вандолаў" — цяжкіх хвілін.*
*— Калі глянем на дату напісання верша (1918 г.) і біяграфію паэта, то знойдзем сувязь лірычнага твора з тагачаснымі гістарычнымі падзеямі (шмятлікія ахвяры Беларусі ў пачатку XX ст., бежанства Янкі Купалы ў Маскву, служба ў дарожнабудаўнічым атрадзе Варшаўскай акругі, пражыванне на Смаленшчыне).*

- *Якія думкі выклікаюць словы: „нашу яго ў жывой душы", „мне сніцца між..." (скарб)?*

*— думка пра радзіму, родную спадчынну не дазваляе траціць надзеі ў лепшую будучыню*
*— паказвае дарогу далейшага дзеяння сапраўдным беларусам (змаганне, барацьба) і паэту (адлюстоўваць рэчаіснасць, навучаць чытачоў, служыць свайму народу)*

- *Які сэнс маюць радкі: „Жыве з ім дум маіх сям'я/ І сніць з ім сны нязводныя..."?*

*— Радкі гэтыя з'яўляюцца працягам папярэдняй думкі. Пра „скарб" думае не толькі лірычнае „я", але і яго „сям'я", беларусы, якія імкнуцца да таго, каб „сны", якія „сняцца аб Беларусі" споўніліся.*

- *Чым з'яўляюцца два апошнія радкі?*

*— Гэта вывад верша. Лірычны суб'ект прадстаўляе сваё разуменне слова „спадчына". Для яго яна ёсць „Старонкай Роднаю".*

- *Назавіце галоўную думкы верша.*

*— значэнне спадчыны ў жыцці чалавека*

- *А цяпер пастаўце тэзіс да верша.*

*— Спадчына адыгрывае важную ролю ў жыцці чалавека.*
*— Спадчына гэта скарб чалавецтва.*

**7.** Аналіз мастацкіх сродкаў вобразнасці.
*— эпітэты: нпр. „вясеннія праталіны, шэлест верасны, дуб апалены, стары амшалы тын"*
*— метафары: нпр. спадчына „яна мне ласкай матчынай, будзіць успамін... бусел, тын лёг ля вёсак"*
*— параўнанні: скарб „як вечы светач-полымя"*
*— сімвалы: „скарб"*

- *Якія фанетычныя сродкі выкарыстаныя ў вершы?*

*— алітэрацыя (паўтор зычных): напр. „спадчына, матчынай, ласкай, праталіны, лесу, шэлест"*
*— асананс (паўтор галосных): напр. „ад прадзедаў спакон вякоў"*

- *Знайдзіце характэрныя лексічныя сродкі.*

*— „казкі-сны, бляянне-зоў, светач-полымя, на могілкавым кладбішчы"*

- *Што яшчэ характэрнае для гэтага верша?*

*— анафара (аднолькавы пачатак другой і трэцяй страфы)*
*— інверсія: „шэлест верасны, дуб апалены"*

- *Звярніце ўвагу на рыфму верша.*

*— перакрыжаваная, у большасці дакладная, напр. „сны-верасны, клёкатам-пакатам"*

**8.** Аналіз кампазіцыі і інтанацыі верша.

- *У вершы лагічная кампазіцыя: першая страфа — паведамленне пра спадчыну, апошняя — тлумачэнне гэтага слова, сярэднія строфы прадстаўляюць адносіны да гэтага духоўнага багацця. Інтанацыя аднолькавая ў цэлым творы: спакойная, уводзіць упэўненасць лірычнага „я" ў адносінах да спадчыны.*

**IV. Падсумаванне тэмы.**

**1.** Вучні слухаюць песню на словы верша Янкі Купалы „Спадчына".

- *Што можаце сказаць пра лірычнае „я"?*

*— Асоба, якая кахае свой край, бацькаўшчыну. Яна выяўляе непакой, клопат, зацікаўленне сваёй радзімай.*

**2.** Хатняя праца.
*Пастаўце свой тэзіс і дакажыце трыма аргументамі з твора.*

**Легенда:**

- пытанне настаўніка

— адказ вучняў

**Яўгенія ТАРАНТА**

**Сцэнарыі ўрокаў** II КЛАС ЛІЦЭЯ

# Тэма: КАЛЯДНЫ АБРАД — ШЧОДРЫ ВЕЧАР.

**Вучні ідучы на гэты ўрок павінны даведацца ад сваіх блізкіх на тэму Шчодрага вечара.**

**МЭТЫ ЎРОКА**:
Вучань патрапіць:
- назваць важныя дні Каляднага перыяду
- выказацца на тэму прачытанага ўрыўка тэксту
- упарадкаваць інфармацыі
- рабіць высновы
- зразумець значэнне спадчыны сваіх продкаў
- падтрымліваць народныя традыцыі
- паглыбляць свае веды

**ЧАС:** два ўрокі

**МЕТАДЫ ПРАЦЫ:** „мазгавы штурм", праца з тэкстам, кіраваная размова, гутарка, практычныя заняткі

**ФОРМЫ ПРАЦЫ**: індывідуальная і калектыўная, праца ў групах

**НАВУЧАЛЬНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ:**
запіс песень-„калядак", ёлка, карткі з тэкстам і заданнем для кожнай групы, рэквізіты для варожб: „палена", талерка, пярсцёнак...

**ХОД УРОКА**:

**I. Арганізацыйны момант**.

**II. Уводзіны ў тэму.**
1. Вучні слухаюць калядку.
2. Кіраваная размова на тэму Калядных свят.

- *Растлумачце слова Каляды.*
  — *гэта перыяд ад 6 да 21 студзеня*
- *Назавіце важныя дні гэтага перыяду.*
  — *Каляда (ўрачыстая вячэра), тры дні Раджаства Хрыстова, вячэра перад Новым годам, Новы год, вадзяная Каляда і тры дні Вадохрышча.*
- *Пачынаючы ад Каляд распачыналіся святыя вечары, у час якіх нельга было нічога рабіць. Як з гэтага вынікае — усе дні і вечары былі вельмі важныя.*
- *Хто з вас ведае, як называецца вечар перад Новым годам?*
  — *напр. шчодры вечар, шчадрэц, багаты, мясны, тоўсты, гагатуха* (вучні называюць і запісваюць на дошцы)

**III. Рэалізацыя тэмы.**

**1.** Запісанне на дошцы і ў сшытках тэмы, названне мэты ўрока.
- *Галоўнай мэтай нашага ўрока будзе пагутарыць на аснове тэксту і вашых ведаў на тэму гэтага вечара (думаю, што вы размаўлялі са сваімі бабулямі і дзядулямі)*

**2.** Кіраваная размова.
- *Нашую працу распачнем ад высвятлення этымалогіі запісаных на дошцы слоў. Скажыце, на колькі сінанімічных груп можна падзяліць названыя тэрміны?*
  — *на тры: шчодры, шчадрэц і багаты; мясны і тоўсты; гагатуха*
- *Адкуль паходзіць назва першай групы слоў?*
  — *ад вялікай колькасці страў на стале ў гэты вечар*
- *Так. Гэты вечар замыкаў увесь год. Быў ён быццам падлікам пладоў чалавечай працы. Быў сталом багацця гэтага года. Кожная жанчына старалася падрыхтаваць як найбольш страў,*

*бо яны верылі, што ад гэтага сям'і давядзецца жыць багата на працягу цэлага года.*

- *Адкуль паходзіць назва другой групы слоў?*
  *— усе стравы былі тлустыя, моцна палівалі іх свіным тлушчам*

- *Адкуль узялася „гагатуха"?*
  *— Мая бабуля гаварыла, што гэта звязана з голасным смехам, які спадарожнічаў у гэты вечар. Па сяле хадзілі прыгожыя дзяўчаты разам са „шчодрай" — прыгожай сяброўкай, апранутай у святочнае адзенне, на галаве якой знаходзіўся папяровы вянок з рознакаляровымі стужкамі. Яны віншавалі гаспадароў са святам, так як калядоўшчыкі, і спявалі песні — шчадроўкі, у якіх паўтаралася „го-го-го", „гу-гу-гу".*

- *А можа ведаеце словы нейкай песні?*
  *— „Гу-гу-гу*
  *Дайтэ того,*
  *што на рогу —*
  *Кішкі з міскі,*
  *Калбаскі з ласкі"*

- *Гэта быў асаблівы вечар. Заканчваўся год і пачыналася нешта новае. Якраз гэтага новага і чакаў чалавек.*

**3.** Падзел вучняў на сем груп. Кожная атрымоўвае тэкст і пытанні да яго. На працягу 10 хвілін вучні шукаюць у тэксце адказаў і даюць загаловак свайму тэксту.

**I група**:
*а) Загаловак урыўка.*
*б) Назаві стравы, якія знаходзіліся на святочным стале?*
*в) Чаму ўсе стравы палівалі свіным тлушчам?*
*г) Да чаго выкарыстоўвалася лямешку?*
*д) Чаму кашы нельга было рыхтаваць на вячэру перад Новым годам?*

**II група**:
*а) Загаловак урыўка.*
*б) Якія звычаі былі характэрныя для таго вечара?*
*в) У чым заключаўся „маскарад", а ў чым „супольнае купанне"?*
*г) Якія вераванні былі звязаныя з гэтым звычаем?*

**III група**:
*а) Загаловак урыўка.*
*б) Растлумачце слова „фокус".*
*в) Назавіце фокусы, якія выступалі ў гэты вечар.*
*г) Да чаго залічыце фокусы хлопцаў?*

**IV група**:
*а) Загаловак урыўка.*
*б) Што рабіла дзяўчына, каб даведацца ці выйдзе замуж?*
*в) Якая варажба вам вядомая?*

**V grupa:**
*а) Загаловак урыўка.*
*б) Што рабілі дзяўчаты, каб убачыць свайго мужа?*
*в) Што мажаце сказаць пра гэтыя варожбы?*

**VI група**:
*а) Загаловак урыўка.*
*б) Хто быў частым героем варожбаў?*
*в) Раскажыце пра іх?*

**VII група**:
*а) Загаловак урыўка.*
*б) Якія рэквізіты былі патрэбныя для варожбаў?*
*в) Раскажыце пра варожбы гэтага віду?*

**4.** Прадстаўнікі груп прэзентуюць сваю працу.

**5.** Вучні выкарыстоўваюць пазнаныя веды ў практыцы — варожаць.

**IV. Падсумаванне тэмы**.

**1.** Гутарка на тэму „шчодрага" вечара.
- *Што думаеце пра заняткі вашых продкаў у ноч перад Новым годам?*

*— цікавыя, смешныя, дзіўныя, трацілі час...*

- *Шчодры вечар у нашых продкаў быў вельмі цікавым і забаўным. Ніхто ў гэты час на нікога не гневаўся. Злавацца грэх.* ***Заўтра Новы год, дзень новага шчасця, новых спадзяванняў, усе з нецярплівасцю яго чакалі. Шкада, што вашыя заняткі ў гэты вечар так далёкія ад тых, пра якія сёння напаміналі. Думаю, што дзякуючы сённяшняму ўроку фокусы хлопцаў і варожбы дзяўчат не будуць вам чужымі.***

**2.** Хатняя праца:
Дзяўчаты, напішыце пра свае варожбы, а хлопцы — пра свае фокусы.

**Легенда**
- пытанне настаўніка

— адказ вучня

## „Шчодры вечар"

**I група**:

Самым істотным момантам „шчадроўніка" з'яўляецца вячэра. Якраз ад яе пачыналася ўся абраднасць. Была яна сапраўды багатая. Смажылі яешню, пяклі аладкі, варылі мяса, падавалі каўбасы. Было тут усё тое, чаго чалавек не бачыў у штадзённым сваім бытаванні. Потым моцна палівалі ўсё гэтае свіным тлушчам. Мела гэта сваё значэнне. Людзі верылі, што такі заход забяспечыць іх тым, што ў нованаступаючым годзе будуць радзіцца прыгожыя і тоўстыя парасяты. Аднак і былі стравы рытуальныя. Прыкладна, абавязкова мусіла быць печаная бульбяная кішка.

Наступнай стравай была лямешка — рэдкая кашка з мукі з маслам або з салам. Падчас вячэры мазалі субяседнікі сабе ёю галовы. Дзяўчаты ў сваю чаргу, набраўшы лямешкі ў жмені, ішлі да суседзяў або знаёмых, асабліва туды, дзе былі нежанатыя хлопцы, і мажучы ім лямешкай далоні, жадалі ўсяго добрага.

Непажаданай стравай у гэты час была каша, навараная з прасяных або ячных круп (куцця). Лічылі, што спажыванне яе будзе прычынай з'яўлення на целе чалавека балячак і высыпкі. Гэтую страву падсоўвалі таму, каму хацелі за нешта „адплаціць".

**II група**:

Наступным элементам святкавання, звязаным з апошнім днём года, былі своеасаблівыя звычаі. Так, калі на Каляды калядніки хадзілі па хатах са звяздою, на Вялікдзень пад вокнамі спявалі валачобнікі, на Юр'я качалі каравай, то на „Гагатуху" адбываўся маскарад. Моладзь, асабліва хлопцы, адвячоркам пераапраналіся за цыганоў, жыдоў, дзядоў і хадзілі па хатах або па вуліцы. Спявалі, віншавалі, рабілі жартоўныя фокусы. За гэта атрымоўвалі падзяку (ў форме каўбас і пірагоў). Паяўляліся ва ўсім гэтым і звяры. Вадзілі „бусла", „казу" або „мядзведзя" (гэта пераадзетыя хлопцы). Быў таксама гарбаты „дзед". І яго баяліся найбольш. Вось забягала такая група ў хату, дзе варажылі дзяўчаты, і „дзед" так і стараўся падкінуць адной з іх косць, а гэта абазначала старапаненства.

Наступнае дзеянне — абрад супольнага купання. У той час, калі заўжды жанчына сарамліва хавала сваё цела ад мужчыны і наадварот, дык у гэты вечар прападаў усялякі сорам. Абмывалі адно аднаго, дапамагалі. Лічылі, што такім чынам змываюць з сябе ўсе клопаты і турботы, якія прынёс ім адыходзячы год. А назаўтра раніцай, на першы дзень Новага года „абмываліся грашыма" (бралі ў далоню манеты, палівалі вадой і абмывалі твар), каб быць цэлы год багатымі.

**III група**:

У той вечар ніхто на нікога не крыўдзіўся, нават за найгоршыя фокусы. А былі яны неаднакратна цяжкія. Менавіта, хлопцы патрапілі зацягнуць на страху воз ды накласці на яго гною, перавозілі стагі з сенам на другое месца, хавалі вароты, затыкалі шматамі або саломай каміны, завязвалі або забіралі дзверы. Потым, зразумела, дапамагалі „пакрыўджанаму", але ён тады мусіў частаваць гарэлкай і закускай. Высыпалі таксама попелам дарогі паміж маладымі людзьмі. Такая дарога

мела на мэце запэўніць пасьпяховасць у іхнім каханні. Часам з гэтага рабілі жарт і высыпалі попелам дарогу паміж сялібамі варожых сабе людзей.

**IV група:**

Важнае месца ў гэты вечар займала варажба, а самымі актыўнымі яе ўдзельнікамі былі дзяўчаты, якія марылі аб шлюбе, аб шчаслівай жаночай долі і дабрабыце.

Варожбы для таго, каб даведацца, ці пойдуць замуж дзяўжаты ці не:

Бегалі пад вокны суседняй хаты, сыпалі зерне аўса і прыслухоўваліся да святочнай гаворкі. Калі да іх далятаалі словы: „не спяшайцеся, пасядзіце, вечар доўгі, яшчэ рана, паспееце трапіць дадому” — то гэта прадказвала працяг дзявоцтва. Калі ж госці казалі: „час збірацца, хопіць сядзець, пара ісці” — гэта ўспрымалася радаснай весткай аб замужжы.

Варажылі на сцяблінках сухога ільну. Бралі дзве сцяблінкі, падпальвалі і падкідалі ўгору. Калі яны пераблытаюцца між сабой — павяжуць рукі маладым вясельным ручніком, калі ўпадуць паасобку — прыдзецца сядзець у дзеўках яшчэ год.

Выбягалі на двор, хапалі бярэмя дроў, або сыпалі ў прыпол трэскі (wióry), потым ішлі ў хату і лічылі. Парная колькасць прадвяшчала замужжа, няпарная — працяг дзявоцтва.

У таямніцы перад адной з дзяўчат клалі пад міскі малітоўнік, пярсцёнак, зямлю, ляльку і чакалі якую міску тая адкрые. Абазначала гэта адпаведна: старапаненства, шлюб, смерць і няшлюбнае дзіця.

**V група:**

У гэтую пераднавагоднюю ноч дзяўчына, якая хацела ўбачыць свайго будучага мужа, ішла да праламкі (przerębli) або студні і ўглядалася ў толь вады, дзе меў паказацца назначаны ёй лёсам мужчына. Вядомай таксама была варажба з люстрам. Звычай вымагае ад дзяўчыны, каб ўпоўнач замкнулася сама ў нейкай хаце або гаспадарчым будынку, асветленым толькі свячой, скінула бялізну і голая пачала моцна ўзірацца ў люстэрка. Каб узмоцніць страх, засцілалі абрусам стол, клалі на яго два настольныя наборы (zastawy stołowe), ставілі два крэслы, і раздзетая дзяўчына сядала спіной да стала і ўзіралася ў люстэрка так, каб убачыць свайго жаніха.

Вядомая таксама так званая „язда ў паветры”. Збіралася група дзяўчат, ішлі на лёд, рабілі праламку, раскладалі каля яе цялячую або конскую шкуру, абрысоўвалі ўсё гэта кругом нажом або свечкай, і сядалі. Адважнейшая дзяўчына прасіла ўголас, каб заняскі яе разам з сяброўкамі да будучага мужа. Былі яны перакананы, што з праламкі выйдуць духі і занясуць іх разам са шкураю туды, дзе жыве той, хто з ёю ажэніцца.

Перад сном уваходзілі на гару і абягалі ў напрамку супраць сонца комін. За трэцім разам меў паказацца будучы муж.

**VI група:**

Да варожбаў выкарыстоўвалі звяроў і птушак. Часта паяўляецца сабака і певень. Сабакі і птушкі, згодна з перакананнем людзей, былі часта месцам пасялення душ памерлых або дэмонаў.

Збіралася ў хаце некалькі дзяўчат. Клалі на падлозе па скібцы хлеба і ўпускалі не надта лакомага сабаку. Да чыёй першай скібкі падыдзе сабака, тая і першай выйдзе замуж.

Сыпалі на падлогу збожжа і пускалі пеўня. Да чыёй купкі падыдзе певень, тая і выйдзе першай замуж.

Бралі гаршчок з лямешкай і выносілі на панадворак ды падыходзілі да студні. Стукалі гэтым гаршчком аб калодзеж і слухалі, з якога боку забрэша сабака. Ён акрэсліваў напрамак, адкуль будзе муж.

Абыходзілі поўначчу хату і наслухоўвалі брэху сабакі.

Узлазілі на плот або вароты, ставалі на месца, дзе смалілі перад Калядамі свінню, і таксама слухалі, з якога боку забрэша сабака. Часта пры гэтым гукалі.

Сядала дзяўчына на кацюбку і „ехала” на ёй да хлява. Калі зарохала свіння, абазначала гэта замужжа. У іншых мясцовасцях гаварылі, што выйдзе толькі тады, калі адазвецца мацёра, а калі паршук — мусіць чакаць яшчэ год.

Дзяўчаты ішлі ў хлеў і хапалі ў цемры авечак. Спадзяванні на шлюб маглі споўніцца ў той, якой у рукі трапіўся баран.

Пяклі блін, ішлі з ім ў двор, рвалі на кавалкі і заплюшыўшы вочы, раздавалі жывёле. Калі блін з'ядаў вол — мінецца дзявочае гулянне.

**VII група:**

А гэта іншыя варожбы:

Дзяўчаты лічылі штахеты ад слупа да слупа, называючы: маладзец, удавец. Апошняя называла стан будучага мужа.

Варачы лямешку, дзяўчына брала лыжку, якою яе мяшала і абягала з ёю вакол хаты ды зноў пачынала мяшаць. Мела гэта запэўніць, што ўсе кавалеры, якія прыедуць у гэтую вёску ў сваты, будуць ехаць толькі да яе.

Павячэраўшы, дзяўчына хавала за рукаў лыжку і ішла з ёю на вуліцу. Імя першага напатканага мужчыны і было імем будучага мужа.

Муралі чаравікамі хату. Чый першы дойдзе да парога, тая і першая пойдзе замуж.

***Крыніца**:*

Крук Янка, Беларускія зімовыя абрады: Куцця, Каляды, Шчодры вечар. у: З васільковых крыніц, рэд. Грыгарук Ялiнта, Варшава 2003.

**Яўгенія ТАРАНТА**

# КАЛЯ АГНЮ КАЛЯДНАЙ СВЕЧКІ — сцэнарый вечарыны.

**МЭТА ВЕЧАРЫНЫ:**
Інтэграцыя вучняў, бацькоў і настаўнікаў.

**НАВУЧАЛЬНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ**:
Запіс песень-калядак, урачысты калядны стол, звязда, ёлка, тэксты вершаў і калядак, тэкст пра нараджэнне Ісуса Хрыста.

**ХОД ВЕЧАРЫНЫ**:
Кабінет беларускай мовы мае святочны выгляд. Парты ў выглядзе доўгага стала, засланыя белымі абрусамі, пад якімі знаходзіцца сена. Адно свабоднае месца. На стале галінкі ёлкі ўпрыгожаныя ватай і бомбачкамі, свечка, хлеб, соль, куцця, бліны (пампушкі). У кутку стаіць „госцік" — снапок немалочанага жыта, на сене — гаршчок з куццёй, збоку ёлка. Гучаць калядкі, чуецца прыемны пах і адчуваецца святочны настрой.
Да ўрока вучні падрыхтаваліся дома згодна з раней абдуманым планам. Перад кожным вучнем знаходзяцца тэксты вершаў і калядак. Заняткі пачынаюцца калядкай „Рожджэство Хрыстова".

**НАСТАЎНІК:** Хутка прыйдзе ў нашы хаты вялікае свята. Яго адзначаюць людзі ва ўсім хрысціянскім свеце: каталікі і пратэстанты 25 снежня, а праваслаўныя — 7 студзеня. Свята адно — Раство Хрыстова, але людзі адзначаюць яго ў розны час, бо жывуць па розных, імі самі прыдуманых, календарах.

Яшчэ да хрысціянства людзі мелі язычніцкую веру, абагаўлялі прыроду. У гэтую пару года яны таксама святкавалі Каляды — таемны, радасны час, калі сонца пачыные паціху падымацца ўсё вышэй і вышэй на небе, даўжэе дзень. Кажуць, сонца павярнула на вясну, а бог сонца ў беларусаў, магчыма, называўся Каляда. І сёння Раство Хрыстова называецца Калядамі, і язычніцкая вера нашых продкаў добра стасуецца са святам Хрыста. Бо ён таксама нарадзіўся, як сонца, каб асвятляць жыццё людзей, сагрэць іх сваёй любоўю.

А цяпер давайце ўзгадаем як расказваецца пра Раство Хрыстова ў біблейным паданні.

**Асоба 1:** „Да таго як нарадзіўся Ісус Хрыстос, высока і далёка на ўсходнім небасхіле з'явілася новая незвычайная зорка. Першыя ўгледзелі яе тры мудрацы, якія даследвалі зоркі. Адзін быў з Персіі, другі жыў у Аравіі, трэці ж быў каралём Эфёпіі. Першы з іх быў сівым старцам і звалі яго Мельхіёр, другога маладога звалі Каспар, трэцяга смуглага, з густою чорнаю барадой — Валтазар.

Што ж гэта за незвычайная зорка? — здзіўлена пытаўся ў дкмках кожны з іх. Калі мудрацы паглядзелі ў старыя кнігі, знайшлі там даўно запісанае прадказанне прарока Валаама: „Узыйдзе зорка над Іакавам і з'явіцца кароль у Ізраілі."

І вось надыходзіў час, калі меў нарадзіцца з людскога цела Кароль — Уладар усяго свету. Мудрацы вырашылі пайсці ў Іудзею, каб пакланіцца Яму...

...вырашылі супольна ісці за зоркай. А была гэта зорка незвычайная. Не стаяла яна як іншыя, у адным месцы, але днём і ноччу спадарожнічала мудрацам.

Калі цудоўная зорка вяла мудрацоў, набліжаўся час нараджэння Ісуса Хрыста."

**Настаўнік**: Сёння мы запалім свечку — як маленькую Хрыстову зорачку. Упрыгожым яе чыстым ззяннем нашых думак.

**Асоба 2:**

***Ларыса Геніюш „З намі Бог”***

Каляда, Каляда, ззяе зорка ўрачыста,
Блаславенная ўзнёсласць славутых хвілін,
У скромных яслях ля Марыі Прачыстай,
Богам пасланы, нованароджаны сын.

Ад шчаслівай сямейкі святло прамянее,
Пастушкоў пакланенні, дары каралёў,
Слова сталася целам, збыліся Надзеі,
Абяцаны Сын Божы на зямлю зыйшоў.

..................................................................

За людзей будзе сведама ісці на распяцце
І пакорна ўспрыме назначаны лёс,
Навучаць будзе ён, што ўсе людзі ёсць брацця,
І што роўныя ўсе перад Богам з нябёс!

...................................................................

А пакуль ззяе зорка, Вячэра, калядкі,
І вялікае Свята прыйшло на парог,
Туліць у яслях Марыя Святое дзіцятка,
І пяюць пастушкі: з намі Бог, з намі Бог!

***Гучыць першая страфа калядкі „Ціхая ноч”***

**Асоба 3**:

***Ларыса Геніюш „Каляда”***
Каляда, Каляда, цішыня над зямлёю,
Святы вечар сягоння ў добрых людзей,
Заінелыя дрэвы стаяць чарадою,
Снегам усыпана сцежкі да нашых дзвярэй.

Каляда, Каляда, з неспакойных дарогаў
І з чужых берагоў кліча хата свая
Да пакінутай Маці, да Бацькі старога,
Дзе за стол у Святы Вечар збярэцца сям'я.

Пакаштуюць куцці, заспяваюць калядкі,
Са слязмі ўспамянуць адышоўшых дзядоў;
У гэту ноч нарадзілася ў яслях Дзіцятка,
Што прынесла з Сабою дабро і любоў.

Гэта святасць душы; гэта моц без аружжа,
Гэта яснасць сумлення, няведанне зла,
Разуменне няшчасных і помач нядужым,
Гэта праўда, што сэрцы да Бога ўзняла.

У бедных яслях прыціхла Калядка Святая,
Зорка ў небе да Бога паказвае шлях,
І бягуць пастушкі, мудрацы паспяшаюць,
Каралі ідуць на зорку з дарамі ў руках.

Тут не знатнасць, багацце, а веліч і праўда,
Прыйшлі людзі Святое з надзеяй вітаць.
Толькі Ірад суровы не ведае рады.
— Няма сілы такое, каб праўду стрымаць.

Яна справядлівасцю з цемры праб’ецца,
Дабро ўсюды дзейны пакіне свой след,
Асвеціць любоў чалавечыя сэрцы,
І мір апануе разрознены свет!

І згіне варожасць, і пройдзе трывога,
І кожны патрапіць у жыцці зразумець,
Што ён на зямлі нашай — частачка Бога,
Які паканаў Сваёй смерцяю смерць!

***Гучыць другая страфа калядкі „Ціхая ноч”***

**Асоба 4**:

***Віктар Швед „Весялосць у хаце”***

Весялосць у хаце,
Дзіўныя навіны,
Прасвятая Маці
Нарадзіла сына.
Скіраваны Богам
Ён ляжыць у сене,
Стаўшыся залогам
Нашага збаўлення.
Усе беларусы
У айчынным краю
Госпада Ісуса
Песняй праслаўляюць.
Слаўся Ты нам вечна,
Божае Дзіцятка,
Мы Табе сардэчна
Спяваем калядкі.

***Гучыць трэцяя страфа калядкі „Ціхая ноч”***

**Асоба 5**:

***Віктар Швед „Наша абраднасць”***

Цешыць нас, што ў родных хатах
Сустракаем нашы святы
І адвечны наш абрад,
Што з душэўнай асалодай
Адзначаем мы заўсёды
Свята слаўнае Каляд.
Згодна з праваслаўнай верай
Да Каляднае вячэры
Людзі з гарадоў і сёл,
Сыну Божаму на славу
Спажываць супольна стравы
Селі за святочны стол.
У святую ноч не спіцца,
У царкоўку памаліцца
Едуць, сеўшы ўсе на воз.
І малыя, і старыя,
Пяюць песні калядныя:
Нарадзіўся нам Хрыстос!

**Настаўнік**: Святое Раство — людзям прыгаство — так гаворыць народная прыказка. Давайце прыгадаем у гэты „вечар” нашых продкаў: якія думкі прыносілі яны ў свята, як збіраліся разам усёй сям’ёю на святочную Куццю. Паспрабуем зразумець, што згубілі мы на гэтым доўгім шляху і паімкнемся далучыцца да іх мудрасці і чалавечнасці. Услухаемся ў далёкія галасы, прыгледзімся як святкавалі Каляды нашыя продкі. Гэтым святам яны канчалі стары і пачыналі новы год.

**Асоба 6**: Надышоў дзень 6 студзеня, які называлі Калядой або Куццёй. У гэты дзень дарослыя пасцілі. Падросткам дазвалялі ў абед з’есці крыху поснае кашы. Таму ўсе з нецярплівасцю чакалі захаду сонца і з’яўлення на небе першай зоркі. Калі сцямнела, дзед — гаспадар з унукам уваходзілі ў хату. Дзед трымаў жытні снапок з зярністымі каласамі, а ўнук прыносіў пахучае сена. Прывітаўшы прысутных у хаце, дзед ставіў снапок — каляду ў пачэсным куце пад абразамі. Унук частку сена клаў каля снапка, на якім бабка ставіла гаршчок з куццёю. Рэшту сена рассцілалі на стале для шчасця і радасці ў хаце, на верх засцілалі белы льняны абрус.

**Асоба 7**: Перад тым як селі за стол, дзед маліўся — прасіў продкаў, каб прыйшлі на супольную вячэру, потым выходзіў і клікаў мароз. Пасля вяртання дахаты садзіўся на покуце каля снапка жыта. Сямейнікі былі падзелены на дзве групы: каля сцяны, па старане дзеда, сядзелі сыны і ўнукі, а з другога боку, насустрач, садзілася баба, дочкі, унучкі і на краю стала — нявестка. Яна падавала ежу на стол. На канцы стала, ад дзвярэй, знаходзілася свабоднае месца для неспадзяванага госця.

***Усе спяваюць калядку на словы верша Віктара Шведа „Каляда”***

**Асоба 8:** Пачыналася вячэра. Першай стравай быў грыбны боршч, да якога падавалася круглыя бліны. Нашыя продкі адушаўлялі прыроду. Яны абагатваралі сонца, якое прыносіла цяпло, святло і пабуджала жыццё на зямлі. Кругла спечаны блін сімвалізаваў сонца,

павароту якога ўсе чакалі. Грыбны боршч — гэта зямныя сокі, якія пад уплывам сонца абуджаюць жыццё ў прыродзе. Спажываючы гэтыя стравы продкі верылі ў жыццядайную сілу адраджэння жыцця на зямлі і зберажэння сябе ад смерці.

**Асоба 9**: Дзед уставаў і запальваў ліхтар, бабка брала блін абмочаны ў баршчы і выходзілі з хаты. Паложаны на прызбе блін, або на стаўбе брамкі, і пастаўлены ліхтар былі для тых душаў, у якіх вымерла радня і ім няма дзе прытуліцца, сагрэцца, паесці.
Сямейнікі з нецярплівасцю чакалі павароту гаспадароў. Першую лыжку баршчу кожны адліваў на абрус, як памяць, удзячнасць і радасць за супольнасць у бяседзе з прашчурамі.

**Асоба 10**: Пасля бліноў і баршчу дзед ставіў на стол бутэльку з пераваранargaным мёдам (мёд быў сімвалам працавітасці і арганізаванасці пчолаў). Пілося яго таму, каб сям'я ў наступаючым годзе жыла згодна, старанна працавала і мела дастатковую колькасць прадуктаў на сваё ўтрыманне і на падтрымку іншым. Дзед наліваючы мёд звяртаўся да бабакі са словамі: „Дай жа нам, Божа, дажыці да наступнай Каляды!". „Будзь здароў!" — адказвала бабака. Гаспадар адліваў крыху мёду на стол для душаў продкаў, а рэшту выпіваў і кілішак падаваў бабцы. У такі спосаб мёд абыходзіў вакол стала. У гэты вечар кожны сямейнік выпіваў поўны кілішак, нягледзячы на ўзрост. Потым бутэльку з мёдам дзед забіраў, каб з яе зноў пачаставаць на Шчодрай куцці.

**Асоба 11**: Цяпер нявестка прыносіла падрыхтаваныя стравы. Спачатку падавала рыбныя: марынаваныя селядцы, смажаную рыбу, рыбны сцюдзянец. Затым з'явіліся на стале грыбы: вараныя, смажаныя і марынаваныя; піражкі з грыбамі, ягадамі і макам; бурачкі з грыбамі і цыбулькай; квашаная прыпраўленая капуста; кісялі: аўсяны і журавінавы; адвараныя яблыкі і грушы; кампот — шчолак; сушаныя ягады і цёрты мак.

**Вучань 12**: Апошняй стравай была куцця з ячменнага зерня, якое таўклі далікатна ў ступе, каб яно засталося цэлым. Крупу варылі ў гаршчку, у якім іншых страў не варылася, які перахоўвалі ад Калядаў да Калядаў. Падчас варэння куцці забаранялася прабаваць. Добра звараная куцця была адзнакай добрага ўраджаю ў будучым годзе, ад якога залежала жыццё селяніна. Недавараныя або пераваранныя зярняты абазначалі голад або вымiранне роду.

**Асоба 13**: З гэтага вынікае, што куцця была сакральнай стравай. Зерне ў светапоглядзе нашых продкаў валодала дзівоснымі ўласцівасцямі — бясконцасці жыцця. Яго жыццядайная сіла не замірала, не гінула ад гвалтоўных зменаў, але заставалася жыць і даваць жыццё навакольнай прыродзе. Зерне магло праляжаць гады, стагоддзі, але трапіўшы ў спрыяльныя ўмовы, абуджалася ў ім жыццё. Куцця — сімвал несмяротнасці.

**Асоба 14:** Прыгожа пра гэта гаворыць **Максім Багдановіч**, беларускі паэт перыяду Нашай Нівы, у вершы „**Санет**".

Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі,
Над хвалямі сінеючага Ніла,
Ужо колькі тысяч год стаіць магіла
У гаршку насення жменю там знайшлі.
Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясенняй збожжа на раллі.

Вось сімвал твой, забыты краю родны!
Зварушаны нарэшце дух народны,
Я верую, бясплодна не засне,
А ўперад рынецца, маўляў крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца.

**Асоба 15:** Куццю варыла бабка і на ёй ляжала быццам адказнасць за будучы год. Гаспадыня памаліўшыся далікатна здымала лыжкай падсохлы верх куцці і адну яе лыжку клала на белую льняную хустачку каля запаленага ліхтара на панадворку. Дзед сцярог, каб панавала поўная цішыня вакол стала. Бабка вярнуўшыся гаварыла: „У згодзе будзьце, спажывайце, Каляда, Каляда!" Гаспадар з першай лыжкі адсыпаў крыху круп на стол душам продкаў. За ім чэрпалі іншыя і кожны клаў крыху на стол. Куццю елі ў поўнай цішыні. Забаранялася махаць нагамі, бо душы маглі быць на стале і пад ім. Да куцці падавалі мёд, сок з ягадаў і вішняў, цёрты мак і іншыя прыправы. Яна варылася з такім разлікам, каб яе ўсю з'елі. Недаедзеная куцця абазначала сямейныя або родавыя сваркі, бойкі.

**Асоба 16:** Калі куцця варылася, пену з яе збіралі ў збан, у які таксама злівалі ваду з памытага гаршчочка. Раніцай мачылі ёю авёс коням, каб яны былі моцныя і хуткія. Падсохлым верхам куцці кармілі курэй, каб добра несліся, а вясной ястраб не хапаў куранят. Лыжак, якімі елі куццю, не мылі, іх перавязвалі ваўнянымі ніткамі, каб авечкі трымаліся чарады. Сена са стала аддавалі каровам, каб давалі многа малака.

**Асоба 17:** Пасля Куцці моладзь збіралася на канцах вёскі і распальвала вогнішчы, да якіх дарослыя прыводзілі дзяцей, прыходзілі таксама старыя дзядулі. Пачыналіся цікавыя апавяданні.

**Вучань 18**:

***Ларыса Геніюш „Святы Вечар"***

Каляда, Каляда, на зямлі Святы Вечар,
Нарадзіўся ў яслях Збавіцель і Бог,
І пасталі бярозаў танклявыя свечкі
Паабапал заснежаных белых дарог.

Халадно. Мо таму, што зіма на парозе,
Адчуваецца лютасць суровай пары,
А ў полі пустым на шырокай дарозе
Плачуць нечаму сумна ліхія вятры.

Чым жа сэрцы сагрэць, як той холад адужаць,
Ці агеньчыкам цьмяным у сялянскім вакне?
Калядою святой, што насуперак сцюжам,
Цеплынёй чалавечыя сэрцы кране.

Каляда, Каляда. Нават зорам трывожна,
Па заблытаных сцежках крутога жыцця
Да сваіх у гэты вечар спяшаецца кожны,
Дзе ў сям'і за сталом нас чакае Куцця!

Сена пах, яліны, стаяць розныя стравы,
Прытаміўшыся, Маці шчасліва маўчыць,
Садавяцца сыны на шырокія лавы,
Што сышліся дамоў, каб душой адпачыць.

Добра сесці разам, слязу радасці ўцерці,
Адчуваць, што ў застоллі, што побач браты,
І душы чысціня, і ўзнёслыя сэрцы,
Бо з людзьмі разам Бог у гэты Вечар Святы.

Сёння сэрцам з усімі Куццю раздзяляем
Хто за стол наш не змог на вячэру прыйсці,
Усіх далёкіх і родных сваіх успамінаем
І дабра ўсім і шчасця жадаем у жыцці.

**Настаўнік**: Нехта з нас скажа: „Мы — хрысціяне, а гэта ж паганскія традыцыі". Безумоўна, што паганскія. Але ў іх выяўляецца светапогляд нашага продка. Ён паказвае свае аднасіны да іншае асобы зусім чужога роду. Ён чулы, надзвычай спагадлівы, заклапочаны тымі душамі, у якіх вымер род і ім няма дзе прытуліцца. Ён ставіць запалены ліхтар, выносіць сакральныя стравы, каб аказаць сваю дабрату, людскасць і пашану блукаючым душам. Нельга з пагардай адносіцца да гэтых паганскіх традыцыяў, але трэба іх успрыняць з пашанай, бо ў іх выяўляецца характар, мары і філасофія нашых продкаў.

Давайце ўспомнім цяпер урывак з паэмы **Якуба Коласа „Новая зямля"**. Пабачым як сям'я Міхала святкавала гэты вечар.

**Асоба 19**:
Куцця. Марозна. Хмурнавата.
Сняжок падкідвае заўзята;
Снег на Куццю — грыбы на лета,
Такая матчына прымета,
А сцежкі чорны — ягад многа;
.........................................................
І вось цяпер гаршчок з куццёю,
Як цар даўнейшаю парою,
У пачэсны кут, на свой прастол,
Стаўляўся з гонарам на стол
На гэта сена пад багамі,
Уладар над хлебам і блінамі,
Бо ён у гэты дзень — персона!
Яго вянчаў абрус — карона:
Гаршчок агорнуты пашанай,
Хаця ён фаміліі глінянай.
.........................................................
Міхал бутэльку адчыняе,
Бо ўжо закуска тут чакае
Стаяць, як горкі, скавародкі,
Тут акунькі, мянькі і плоткі,
Ды так падсмажаны, што люба —
Сама да іх імкнецца губа.
Гарэлка, радасць-весялуха,

Прыемна булькае ля вуха
І гэтак вочы прыцягае,
Ну, як каханка маладая!
..........................................................
Вячэру скончылі куццёю.
..........................................................

**Асоба 20**:
На першы дзень святых калядак —
Такі ўжо быў стары парадак —
Збіралі сена са стала,
Кармілі ім каня, вала
І ўсіх жывёлін, хоць па жмені,
А на стале, у драбнюткім сене —
Здавён-даўна вялося й гэта —
Уважна зернетак шукалі
І па тых зернетках гадалі,
Які зародзіць хлеб на лета.

**Настаўнік**: Калядная абраднасць прайшла праз стагоддзі, дайшла да нашых дзён. Бацькі, дзяды і прадзеды зберагалі старадаўнія народныя традыцыі. Нашым абавязкам ёсць таксама перадаваць іх наступнаму пакаленню.
Дапусцім, цяперашняе пакаленне пастанавіла святкаваць Каляды па-новаму. Ці ж гэта мае абазначаць, што народныя традыцыі памерлі і ніколі больш не адродзяцца? Ці гэта абазначае, што народ скарыўся перад Валянцінкамі, Анджэйкамі, Мікалайкамі і ніколі больш не ўспомніць свае старадаўнія традыцыі?
Веру, што вы не забудзеце пра нашае свята і хаця крышку таго, што тут пачулі перанясеце ў свае хаты.

***Групка моладзі падыходзіць да звязды і спявае калядку на словы Віктара Шведа „Каляднікі", іншыя памагаюць.***

**Настаўнік**: Дарагія Вучні Бацькі і Настаўнікі Канчаючы нашую вечарыну я хацела б прывесці словы-пажаданні верша Ларысы Геніюш
„Няхай будзе Вам цёпла, як у бацькавай хаце,
У гэтым свеце шырокім , дзе столькі дарог,
Няхай людзі зямлі для Вас будуць як брацця,
І жыццёвыя сцежкі прастуе Вам Бог".

***Ларыса Геніюш***
Дзед марод прасіў мяне перадаць Вам падарак, якім ёсць рэцэпт на падрыхтоўку куцці. Няхай будзе ён сімвалам нашай супольнай каляднай сустрэчы і добра служыць у Вашым жыцці.

***Гучыць калядка „Нова радасць стала". Прысутныя дзеляцца куццёй і жадаюць сабе ўсяго найлепшага.***

**Крыніца:**
Белямук Міхась, Зімовы калядні абрад — Куцця. у: Беларускі каляндар за 1987 г., Беласток 1987, ст 179 -185.

***Віктар Швед „Каляднікі"***
З васьмікутнаю звяздою
Дзеці цэлаю гурбою
Выйшлі сёння на мароз.
З канца вёскі на змярканні
Пачалі калядаванне:
Нарадзіўся нам Хрыстос!

Ад хаціны да хаціны
Да гаспадароў гасцінных
З каляроваю звяздой,
Ходзяць радасныя дзеці,
Пад акенцам звязда свеціць,
Як прыгожа, Божа мой!

Цешыць сёння ўсё Палессе
Прыгажосць калядных песень,
Той адвечны наш абрад.
Таму радуе заўсёды
Сэрца нашага народа
Свята слаўнае Каляд!

Праспявалі пад акенцам,
Дзверы заскрыпелі ў сенцах,
На двор выйшаў гаспадар.
І з душэўнай асалодай,
Уручае, як заўсёды,
Дзецям свой грашовы дар.

Грошыкі падзеляць дзеці,
Шчаслівейшыя на свеце,
І ласункаў купяць шмат.
Будуць жыць успамінаннем
Іхняга калядавання,
Будуць зноў чакаць Каляд!

***Віктар Швед „Каляда"***
Урачысты Святы вечар
Распачаўся пахам з печы.
У кутку пад абразамі,
Што прыбраны ручнікамі,
Жменя сонечных калоссяў,
Каб багата нам жылося.
Традыцыйна ў беларусаў
Водар сена пад абрусам.
Села ўжо сям'я на лавы,
Посныя дымяцца стравы.
Смачны боршч з баравікамі,
Што сабралі ў лесе самі,
Вараныя ў печы грушы,
Што раней іх маці сушыць,
Куцця з панцаку у каструлі,
Сподак смажанай цыбулі,
На стале стаяць грыбочкі,
Агурочкі проста з бочкі,
Міска квашанай капусты,
Адно блюда з рыбай тлустай,
Селядцоў ляжыць чатыры,
Да іх бульбіны ў мундзірах,
Горба блінчыкаў духмяных
І кісель з мукі аўсянай.
Да ўсіх страваў бацька рэжа
Аржаны хлябок свежы.
За сталом пад'еўшы лоўка
Адпраўляецца ў царкоўку
Беларускі люд вясковы,
Стрэнуць Раджджаство Хрыстова.

**Куцця**

- 2 шклянкі ячных круп
- 3 літры вады
- 1 шклянка малака
- 0,75-1 шклянка маку
- 2-3 сталовыя лыжкі мёду
- 2 сталовыя лыжкі журавінавага або парэчкавага варэння

Крупы прамыць, адварыць у вадзе на невялікім агні, пастаянна здымаючы пену. Перакласці кашу ў іншую пасудзіну, уліць малако.Увесь час памешваючы, варыць да мяккасці круп і загусцення. Падрыхтаваць мак: заліць яго кіпнем, даць распарыцца. Праз 5 хвілін ваду зліць, мак прамыць. Паўтарыць яшчэ раз. Распараны мак перацерці ў фарфоравай ступцы, змяшаць з кашай і дабавіць мёд. Перамешваючы, падграваць кашу на невялікім агні 5-7 хвілін. Запраўціць варэннем.

**Яўгенія ТАРАНТА**

**Сцэнарыі ўрокаў**

# Scenariusz lekcji na podstawie filmu „Mówią Białorusini Podlasia" w reż. Mikołaja Wawrzeniuka

(na godzinę wychowawczą, wiedzę o społeczeństwie, historię i kulturę Białorusi)



Тамара КАРНІЛЮК

**TEMAT:** Białorusini jako mniejszość narodowa

**PO ZAJĘCIACH UCZEŁ POWINIEN UMIEĆ**:

- wyjaśnić pojęcie naród, mniejszości narodowe;
- wskazać czynniki kształtujące naród;
- wymienić na podstawie filmu cechy łączące naród białoruski;

**METODY PRACY**:

- mini wykład
- film
- dyskusja
- praca w parach

**ŚRODKI DYDAKTYCZNE:**

- film
- karta pracy do filmu
- słownik wyrazów obcych
- słownik białorusko polski

**CZAS TRWANIA:** • 2 godziny lekcyjne

**WPROWADZENIE**

**1. Mini wykład nauczyciela na temat: naród, mniejszość narodowa.**

**Naród** — grupa ludzi których łączy świadomość narodowa tj. przekonanie o wspólnym pochodzeniu, dziedziczeniu jednej kultury, identyfikowaniu się z losami wspólnych przodków, oddawanie czci pewnym symbolom i bohaterom narodowym. Tożsamość narodową mogą mieć osoby nie tylko zamieszkujące terytorium państwa należącego do danego narodu, lecz przebywające stale za granicą

Wspólny język — Wspólna historia
Terytorium — Wspólnota kultury
Wspólnota życia gospodarczego

**Mniejszość narodowa** Zgodnie z Ustawą z dn. 06.01.2005 o mniejszościach narodowych i etnicznych oraz o języku regionalnym . za mniejszość narodową uznaje się grupę obywateli, która spełnia wszystkie podane warunki (art. 2):
*1) jest mniej liczebna od pozostałej części ludności Rzeczypospolitej Polskiej;*
*2) w sposób istotny odróżnia się od pozostałych obywateli językiem, kulturą lub tradycją; 3) dąży do zachowania swojego języka, kultury lub tradycji;*
*4) ma świadomość własnej historycznej wspólnoty narodowej i jest ukierunkowana na jej wyrażanie i ochronę;*
*5) jej przodkowie zamieszkiwali obecne terytorium Rzeczypospolitej Polskiej od co najmniej 100 lat;*
*6) utożsamia się z narodem zorganizowanym we własnym państwo.*

O tożsamości narodowej każdego człowieka decyduje jego osobista deklaracja, najczęściej jednak wynika ona z faktu urodzenia i/lub wychowywania w rodzinie lub społeczności o ok-

reślonej kulturze. Polskę zamieszkuję oprócz Białorusinów 8 innych mniejszości narodowych Czesi, Niemcy, Litwini, Ormianie. Rosjanie ,Słowacy ,Ukraińcy, Żydzi.
Nauczyciel zapoznaje uczniów z kartami pracy oraz powtarza informacje o czynnikach narodotwórczych, które należy znaleźć w filmie.

**2.Prezentacja filmu „Mówią Białorusini Podlasia".**

**3. Uzupełnienie karty pracy w grupach.**

**Karta pracy do filmu „Mówią Białorusini Podlasia"**

**1.** Wspólne terytorium zamieszkiwane przez pewną grupę społeczną i język jako medium komunikacji wspólnotowej i wspólnotowego przeżywania stanowią dwa z podstawowych elementów składających się na definicję narodu.

**a)** Na podstawie filmu „Mówią Białorusini Podlasia" zaznacz orientacyjnie, w jakiej części danego powiatu mieszkają bohaterowie filmu.



**b)** Uzupełnij tabelkę wpisując słowa różnie bądź tak samo wymawiane w gwarach bohaterów pochodzących z różnych miejscowości*:

| **Znaczenie w j. polskim** | **Gwara białoruska** | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Okolice Sokółki | Okolice Hajnówki | Okolice Bielska Podl. | Okolice Siemiatycz |
| robić | | | | |
| ludzie | | | | |

**c)** Wyjaśnij słowa użyte w filmie**:

haściniec ........................................................ kołodec ............................................................................

**d)** Wyjaśnij pojęcie dyftong. Podaj przykłady użycia przez bohaterów filmu
.......................................................................................................................................................
.......................................................................................................................................................

**2.** Identyfikowanie się z losami przodków -wspólna historia to kolejny czynnik, który kształtuje powstanie narodu.

Dopisz do dat wydarzenia historyczne , których uczestnikami byli Białorusini pokazani w filmie ( bieżeństwo, II Wojna Światowa, roboty przymusowe, wymordowanie mieszkańców wsi Szpaki przez bandę Burego)
1915......................................................................................................................................
1939-45..................................................................................................................................
1946......................................................................................................................................

**3.** Wspólnota kulturowa Białorusinów Podlasia pokazana w filmie.

Wymień:
a) symbole ..............................................................................................................................
b) wytwory kultury materialnej ...............................................................................................
.......................................................................................................................................................
c) tradycje, obyczaje .................................................................................................................
.......................................................................................................................................................

**4.** Kolejnym czynnikiem narodotwórczym jest wspólnota gospodarcza. Scharakteryzuj na podstawie filmu źródło utrzymania bohaterów, jak zmienił się poziom życia w przeciągu 100 lat. Przedstaw obawy bohaterów związane z przyszłością.
.......................................................................................................................................................
.......................................................................................................................................................
.......................................................................................................................................................

**Praca domowa**
Podaj cechy charakterystyczne gwary używanej w Twojej rodzinie
.......................................................................................................................................................
.......................................................................................................................................................

### Słowniczek

**Dyftong**, **dwugłoska** (stgr. δίφθογγος diphthongos — „dwubrzmiący") — pojedyncza samogłoska (na ogół długa) o zmiennym przebiegu artykulacji, co sprawia, że ucho ludzkie słyszy dwa dźwięki, mimo że są one zespolone niejako w jeden i mają właściwości pojedynczej samogłoski.

* W przypadku tworzenia kliku różnych kart pracy dla grup, podaję przykładowa słowa użyte w filmie do wyboru:

| **Znaczenie w j. polskim** | **Gwara białoruska** | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Okolice Sokółki | Okolice Hajnówki | Okolice Bielska Podl. | Okolice Siemiatycz |
| Szkoła | | | | |
| Chodzić | | | | |
| Tydzień | | | | |
| Dziewczyny | | | | |
| Pieniądze | | | | |
| Ręce | | | | |
| Oglądać | | | | |
| Śpiewać | | | | |

**W przypadku tworzenia kilku różnych kart pracy dla grup, podaję przykładowa słowa użyte w filmie do wyboru:

swaty ......................................................
taukacz ..................................................
płachta ..................................................
bidowo ..................................................
weczurki ......................................................
hościna ........................................................
pasowoje ....................................................
szlopancy ....................................................

**Literatura:**


- Piotr Leszczyński, Tomasz Snarski, Wiedza o społeczeństwie, Operon 2012
- Tomasz Stryjek, Elżbieta Tyszko-Kulik, Piotr W. Zawadzki, Wiedza o społeczeństwie, PWN 2007
- Atlas Gwar Wschodniosłowiańskich Białostocczyzny, tom I, PAN 1996


**Тамара КАРНІЛЮК**

# Змест

**Рэдакцыйная калегія:** Аліна Ваўранюк,
Яланта Грыгарук,
Ян Карчэўскі,
Яўгенія Таранта

**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі



**Выдавец:** Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА

**Друк:** Intropack Jerzy Iwaniuk

Zrealizowano dzięki dotacji
Ministra Administracji i Cyfryzacji

